Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА.

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ

### БЕЛАРУСКАЕ ССР.



12 ЛІПЕНЯ 1928 г.

**№ 7 (50).**

IV-ы год ВЫДАНЬНЯ.

ВЫДАНЬНЕ КІРАЎНІЦТВА
СПРАЎ СНК І ЭКАНАМІЧНАЙ
НАРАДЫ БССР
Менск—1928 г.

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА.

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ

## БЕЛАРУСКАЕ ССР.


12 ЛІПЕНЯ 1928 г.

№ 7 (50).

IV-ы год ВЫДАНЬНЯ.

ВЫДАНЬНЕ КІРАЎНІЦТВА
СПРАЎ СНК І ЭКАНАМІЧНАЙ
НАРАДЫ БССР
МЕНСК—1928

# ЗЬМЕСТ.

## *Частка афіцыйная.*

---

## П А П Р А Ў К А.

У Бюлетэні № 6(49) на стар. 29 у Пастанове Н. К. Працы і Н. К. Юстыцыі БССР за 12 мая 1928 г. № 35 „Пра спагнаньне па выканальных лістох“ **прапушчан** у канцы § 1 п. ж. наступнага зьместу „ж) з выдаваемых сялянскімі камітэтамі узаемадапамогі ў якасьці падмогі інвалідам і іх сем'ям, а таксама сем'ям чырвонаармейцаў“.

## 1. Пастанова Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР

ПРА ЎСТАНАЎЛЕНЬНЕ ШКАЛЫ КРЭДЫТАВАНЬНЯ СЯЛЯНСТВА БССР НА КАЛЁСЫ „КРЕСТЬЯНСКИЕ ХОДА“ НА 1927—1928 год.

Эканамічная Нарада пры Савеце Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць наступную шкалу крэдытаваньня сялянства БССР на закупку калёс пад назвай „Крестьянские хода“ на 1927-1928 год:

| КАЛЁСЫ „КРЕСТЬЯНСКИЕ ХОДА“ | Для бядняцкіх і серадняцкіх груп сялянства | | | | | Для іншых груп сялянства | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Задатак гатоўкаю | У крэдыт | | | | Задатак гатоўкаю | У крэдыт | | |
| | | Да 1 ураджаю | Да 2 ураджаю | Да 3 ураджаю | Да 4 ураджаю | | Да 1 ураджаю | Да 2 ураджаю | Да 3 ураджаю |
| | 10% | 20% | 20% | 20% | 30% | 25% | 25% | 25% | 25% |

2. Запрапанаваць Белсельбанку забясьпечыць атрыманьне патрэбных крэдытаў для крэдытаваньня насельніцтва на пакупку паказаных калёс.

Старшыня Эканамічнай Нарады пры СНК БССР **М. Карклін.**

Нам. Кіраўніка Спраў Савету Народных Камісараў і Эканамічнай Нарады БССР **В. Крывіцкі.**

5-га чэрвеня 1928 г.
г. Менск.

---

## 2. Пастанова Калегіі Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР

ПА ПЫТАНЬНІ АБ СЫСТЭМЕ ЎНУТРЫВЕДАМСТВЕННАГА КАНТРОЛЮ ЗА ВЫКАНАНЬНЕМ ДАРУЧЭНЬНЯЎ ЎРАДАВЫХ ОРГАНАЎ БССР.

1. На падставе пастановы СНК БССР за 9-га красавіка 1928 г. ва ўсіх народных камісарыятах, цэнтральных установах, Сталым Прадстаўніцтве пры Ўрадзе СССР і акруговых выканаўчых камітэтах БССР з 1-га чэрвеня 1928 г. устанаўляецца аднолькавая сыстэма унутрыведамственага кантролю за выкананьнем даручэньняў ўрадавых органаў БССР праз увядзеньне ў кожнай установе кантрольнай карткі, паводле даданай да гэтай пастановы формы, і з захаваньнем паказаных ніжэй правіл.

2. Кожнае ведамства і ўстанова, якому даюцца даручэньні ўрадавымі органамі БССР, вылучае адпаведнага працаўніка для вядзеньня кантролю за выкананьнем.

3. Усе пастановы, загады і паасобныя даручэньні ўрадавых органаў БССР (Зьезды Саветаў, ЦВК, СНК, Эканамічн. Нарада, Народны Камісарыят Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі і інш.), незалежна ад спосабаў (апублікаваньне ў друку, агульная рассылка пратаколаў, атрыманьне выпісаў з пратаколаў, паасобныя заданьні і інш.), у сі-

лу якіх яны становяцца вядомымі данай установе і патрабуюць выкананьня альбо нагляду за выкананьнем ніжэйшых за іх устаноў па адпаведнай ведамственай лініі, прымаюцца да выкананьня, вызначаецца пэрсанальна выканавец і заданьне заносіцца на кантрольную карту.

4. Картка мае адзіную форму і разьмер 105×148 м/м., робіцца з картоннай (картачнай) паперы і ня можа быць адступленьняў ад формы і тэксту карткі. Картка вядзецца ў агульнай сыстэме справаводзтва і захоўваецца ў скрынцы—картатэцы.

5. Картка запаўняецца наступным чынам:

а) шэраг лічбаў зьверху ад 1 да 31 адзначае дні месяцаў, на якія выстаўляецца індыкатар-наезднік ў адпаведнасьці з тым тэрмінам выкананьня, які назначаецца беспасрэднаму выканаўцу.

Калі тэрмін выкананьня адносіцца да наступнага месяца, то індыкатар-наездчік выстаўляецца на месцы абазначэньня „на наступныя месяцы“ і ў першы дзень кожнага бягучага месяца індыкатар-наезднік перастаўляецца на патрэбны дзень-тэрмін.

Правы верхні куток карткі, пасьля выкананьня даручэньня, па лініі абрэзваецца, калі картка можа быць пакінута ў агульнай масе картак альбо перастаўлена ў разьдзел картатэкі „скончаных даручэньняў“;

б) у графе „Установа, што выдала даручэньне“ ўпісваецца назва ўрадавага органу, якім яно выдана, напрыклад, СНК БССР, Эканамічная Нарада і інш.;

в) у графе „№“ паказваецца толькі той клясіфыкацыйны нумар альбо нумар рэгістрацыі паперы, у залежнасьці ад тэй сыстэмы справаводзтва, якая існуе ў данай установе;

г) у графе „Дата і № даручэньня“ вызначаецца год, дзень, месяц і № паперы тае ўстановы, ад якой выходзіць даручэньне;

д) у графе „Асноўныя тэрміны“ ўпісваюцца тыя тэрміны, якія назначаны альбо зьменены ўстановаю, што дала даручэньне;

е) у графе „Просьба аб адкладзе тэрміну“ запісваюцца даты хадайніцтваў аб новых тэрмінах установы, што выконвае даручэньне;

ж) у графе „Скончана“ ўпісваецца дата (дзень і месяц), калі даручэньне канчаткова выканана;

з) у графе „Дзень вядзеньня“ адзначаецца лік дзён, на працягу якіх праводзіўся працэс выкананьня, лічачы з даты выданьня пастановы або распараджэньня да дня канчатковага выкананьня;

і) у графе: „Даручэньне абвешчана“ паказваецца: 1) дзе апублікована, напрыклад: Збор Законаў БССР, Бюлетэнь СНК БССР, газэта „Савецкая Беларусь“, пратакол СНК БССР і інш.; 2) год, дзень і месяц, нумар, артыкул, праграф, пункт;

к) у графе „Пытаньне“ пішацца каротка і зразумела сутнасьць самога пытаньня;

л) у разьдзеле граф „Ведамственае выкананьне“ дакладна запісваецца рух пытаньня ў інстанцыях, паказаўшы: выканаўца, вызначаны тэрмін выкананьня, новыя тэрміны выкананьня і выкананьне ўнутры ўстановы, а таксама адведзены графы для увагі і розных адзнак, якія могуць сустрэцца ў працэсе руху пытаньня і зьявяцца патрэбнымі для ўпісаньня, каб забясьпечыць адшуканьне даведкі непрадугледжаныя моманты па праходжаньні пытаньня.

Народны Камісар Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі
БССР **А. Калнін.**

9 чэрвеня 1928 г.
№ 33 п. І.

ДАДАТАК

| 1 | 3 | 5 | 7 | 9 | 11 | 13 | 15 | 17 | 19 | 21 | 23 | 25 | 27 | 29 | 31 | 1 2 3 Па наступныя месяцы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

| | | |
|---|---|---|
| Установа, што выдала даручэньне | | № |

| | |
|---|---|
| Дата і № даручэньня: 192.. / № | Пытаньне: |
| Асноўныя тэрміны: / / / / | |
| Просьба аб адкладзе тэрміну: / / / — Дзён вядзеньня | |
| Скончана / | |
| Даручэньне абвешчана: 192 № арт. / § п. | |

Ведамственае выкананьне

| Выканаўцы | Тэрм. | Новыя тэрміны | | | Вык. | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | / | / | / | / | / | |
| | / | / | / | / | / | |
| | / | / | / | / | / | |
| | / | / | / | / | / | |
| | / | / | / | / | / | |

НА АДВАРОЦЕ

Ведамственае выкананьне

| Выканаўцы | Тэрм. | Новыя тэрміны | | | Вык. | Увага | Для адзнак: |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | / | / | / | / | / | | ........ |
| | / | / | / | / | / | | ........ |
| | / | / | / | / | / | | ........ |
| | / | / | / | / | / | | ........ |
| | / | / | / | / | / | | ........ |
| | / | / | / | / | / | | ........ |
| | / | / | / | / | / | | ........ |
| | / | / | / | / | / | | ........ |
| | / | / | / | / | / | | ........ |
| | / | / | / | / | / | | СтАТ. А.Б.105×148 мм. ЦКК-НКРСі і БССР. |

## 3. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы, Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

ПРА СКАСАВАНЬНЕ СВАЙГО АБЕЖНІКУ ЗА 15 ВЕРАСЬНЯ 1924 г. „ПРА ЗАМЕНУ ПРАДСТАЎНІКОЎ ОРГАНАЎ Н. К. ПРАЦЫ Ў ПРАЦОЎНЫХ СЭСІЯХ НАРОДНЫХ СУДОЎ ПРАДСТАЎНІКАМІ 93 ДЗЯРЖАЎНЫХ ГАСПАДАРЧЫХ ОРГАНАЎ“.

*Усім акруговым судом і акруговым пракурорам.*

Склад працоўных сэсій вызначаецца цяпер артыкулам 63 Палажэньня аб судабудаўніцтве (З. З. БССР 1925 г., № 49, арт. 382), а таму Народныя Камісарыяты Працы, Унутраных Спраў і Юстыцыі БССР лічаць страціўшым сілу выданы імі 15 верасьня 1924 г. абежнік „Пра замену прадстаўнікоў органаў Народнага Камісарыяту Працы ў працоўных сэсіях народных судоў прадстаўнікамі дзяржаўных гаспадарчых органаў.“

З гэтай прычыны акруговым судом і акруговым пракурорам прапануецца на далейшы час ў сваёй працы гэтым абежнікам не кіравацца.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР і Ст. Пам. Пракурора Рэспублікі **С. Гохман.**

16 мая 1928 г.
№ 60.

---

## 4. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

ПРА ЗАЦЬВЕРДЖАНЬНЕ ТЫПОВЫХ ПРАВІЛАЎ УНУТРАНАГА ПАРАДКУ ДЛЯ ДЗЯРЖАЎНЫХ УСТАНОЎ, КІРУЮЧАГА АПАРАТУ ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРАМЫСЛОВЫХ І ГАНДЛЁВЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ І АКЦЫЙНЫХ ТАВАРЫСТВАЎ З ПЕРАВАЖНЫМ УДЗЕЛАМ ДЗЯРЖАЎНАГА КАПІТАЛУ.

Для павялічэньня прадукцыйнасьці працы і працоўнай дысцыпліны, а таксама для ўстанаўленьня правільных узаемаадносін паміж адміністрацыяю ўстаноў і служачымі, Народны Камісарыят Працы БССР, на падставе арт. 53 Кодэксу Законаў аб Працы, пастанаўляе:

1. Зацьвердзіць даданыя да гэтай пастановы тыповыя правілы ўнутранага парадку для дзяржаўных устаноў, кіруючага апарату дзяржаўных прамысловых і гандлёвых прадпрыемстваў і акцыйных таварыстваў з пераважным удзелам дзяржаўнага капіталу.

2. На падставе гэтых тыповых правілаў паказаныя ў арт. 1 гэтай пастановы ўстановы павінны на працягу месяца ад дня абвяшчэньня гэтых правілаў перагледзець існуючыя ў іх правілы ўнутранага парадку і падаць іх на зацьверджаньне ў парадку, прадугледжаным у арт. арт. 54 і 55 Кодэксу Законаў аб Працы.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Я. Мяркулаў.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік.**

Узгоднена з ЦСПСБ: Загадчык Тарыфна-Эканамічнага Аддзелу **Розін.**

23 мая 1928 г.
№ 38.

ДАДАТАК

## ТЫПОВЫЯ ПРАВІЛЫ ЎНУТРАНАГА ПАРАДКУ ДЛЯ ДЗЯРЖАЎНЫХ УСТАНОЎ, КІ-РУЮЧАГА АПАРАТУ ДЗЯРЖАЎНЫХ І ГАНДЛЁВЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ І АКЦЫЙНЫХ ТАВАРЫСТВАЎ З ПЕРАВАЖНЫМ УДЗЕЛАМ ДЗЯРЖАЎНАГА КАПІТАЛУ.

### *I. Даўжыня і разьмеркаваньне рабочага часу.*

1. Работа ва ўстанове пачынаецца а 9 гадзіне і канчаецца а ____ гадз.

2. Рабочы час служачых, для якіх устаноўлены васьмігадзінны рабочы дзень, разьмяркоўваецца наступным чынам:

| Пасада | Рабочы час | | Перапынак | |
|---|---|---|---|---|
| | Ад | Да | Ад | Да |
| | | | | |

Для падлеткаў ад 16 да 18 гадоў, для якіх рабочы дзень не павінен перавышаць 6 гадзін, рабочы час разьмяркоўваецца наступным чынам:

| Пасада | Рабочы час | | Перапынак | |
|---|---|---|---|---|
| | Ад | Да | Ад | Да |
| | | | | |

Падлеткі ад 14 да 16 гадоў працуюць 4 гадзіны ад . . . да . .

3. Напярэдадні штотыднёвага дня адпачынку і наступных сьвяточных дзён праца вядзецца без перапынку і спыняецца а . . . . . гадзіне.

Сьвяточныя дні:
1 студзеня—Новы Год.
22 студзеня—дзень памяці У. І. Леніна і дзень 9 студзеня 1905 г.
12 сакавіка—дзень, у які скінута самаўладзтва.
18 сакавіка—дзень Парыскай Камуны.
1 і 2 мая—дні Інтэрнацыяналу.
7 і 8 лістапада—дні Кастрычнікавай Рэвалюцыі.

4. Усе служачыя, незалежна ад пасады, павінны зьяўляцца на працу ў вызначаны час. Забараняецца без дазволу адміністрацыі адходзіць з установы ў час працы альбо спыняць раней вызначанага тэрміну.

5. На працягу рабочага часу служачым даецца перапынак на 30 мінут для адпачынку і яды.

Разьмеркаваньне часу перапынку для паасобных работнікаў устанаўляецца з такім разьлікам, каб ня была нарушана нармальная работа ўстановы.

6. Для жанчын, якія кормяць грудзьмі, устанаўляюцца асобныя перапынкі для кармленьня, праз кожныя $3^1/_2$ гадзіны, даўжынёю ня менш $^1/_2$ гадзіны. Перапынкі ўваходзяць у рабочы час. Тэрмін перапынкаў устанаўляецца РКК асобна для кожнай жанчыны, якая корміць, у залежнасьці ад адлегласьці месца працы да месца карміленьня дзіцяці.

Па патрабаваньні работніцы час агульнага перапынку можа быць далучаны да перапынку для кармленьня.

7. Звышмерная праца вядзецца паводле пастановы РКК з папярэдняга дазволу Інспэктара Працы.

Распараджэньні аб вядзеньні звышмернай працы даюцца ў пісьмовай форме наступнымі асобамі (пералічаць якімі). Патрабаваньні працаўнікоў аб унясеньні ў разьліковую кніжку сум, якія прылічваюцца за звышмерную працу, павінны заяўляцца не пазьней 6 месяцаў пасьля сканчэньня работы.

8. Спазьненьні на работу, адлучкі ў час работы і адход раней устаноўленага тэрміну без дазволу адміністрацыі не дазваляецца, пры гэтым прапушчаны час лічыцца прагулам і не аплачваецца.

9. Захварэўшы, а таксама незьявіўшыся на работу з прычыны хваробы альбо сьмерці члена сям'і, работнік павінен на працягу 48 гадзін паведаміць адміністрацыю, калі-ж гэта немагчыма зрабіць, то работнік павінен на працягу 48 гадзін пасьля яўкі на работу падаць дакумэнты, паказаныя ў арт. 10 гэтых правілаў.

10. Ва ўсіх выпадках неяўкі на работу па прычынах, паказаных у арт. 9, работнік павінен падаць адміністрацыі пасьведчаньне ад раённага доктара, альбо лекавай установы аб хваробе, альбо больнічны ліст, або іншыя адпаведныя дакумэнты. Калі гэтыя дакумэнты ня будуць паданы, то неяўка лічыцца прагулам.

11. Адлучкі работнікаў па прафэсыянальных, грамадзянскіх і грамадзкіх абавязках дазваляюцца толькі ў парадку і ў выпадках, прадугледжаных арт. арт. 77—79 і 161 Кодэксу Законаў аб Працы.

Не зьяўляюцца прагуламі адлучкі для яўкі ў органы ваеннага ведамства па справах, зьвязаных з вайсковаю службаю.

12. Для кантролю за сваячаснаю яўкаю і адходам з службы, уводзіцца сыстэма кантролю праз: а) рэгістрацыйныя лісты альбо б) марачную сыстэму.

Калі ўводзіцца сыстэма рэгістрацыйных лістоў, то трэба завесьці рэгістрацыйныя лісты: а) прыходу на работу, б) спазьненьняў, в) адходу, г) адходу служачых у рабочы час па службовых, а таксама і па асабістых справах.

У лістох „а“ і „в“ запісваецца прозьвішча служачага і кожны служачы павінен расьпісвацца на лісьце, пры прыходзе альбо адходзе, працаўнікі, якія прыйшлі пасьля 9 гадзін, расьпісваюцца ў лісьце „б“ і на лісьце „а“ паказваецца час спазьненьня, у лісьце „г“ адзначаецца, па якой прычыне работнік адлучаецца.

Калі ўводзіцца марачная сыстэма, то кожнаму работніку даецца марка з нумарам, якая вывешваецца на дошцы пры прыходзе на работу і зьнімаецца пры адходзе.

Не пазьней пяці мінут да пачатку і пасьля сканчэньня работы дошкі павінны зачыняцца. Служачыя, якія спазьніліся, расьпісваюцца ў асобным лісце, паказаўшы час спазьненьня; работнікі, якія адходзяць у час работы па службовых альбо асабістых справах, расьпісваюцца таксама ў асобным лісьце.

## *II. Абавязкі служачых у час працы.*

13. Служачыя павінны акуратна і сваячасна выконваць ускладзеныя на іх абавязкі і выконваць усе распараджэньні адміністрацыі, якія тычацца іх абавязкаў.

Калі служачы лічыць атрыманае ім распараджэньне няправільным, то ён павінен аб гэтым паведаміць асобу, што дала рас-

парадкэньне, і калі распараджэньне будзе паўторана—павінен яго выконваць.

14. Служачыя павінны выконваць устаноўлены парадак вядзеньня працы і прыйманьня наведчыкаў; забараняецца рабіць паслугі ў парадку пратэкцыянізму.

15. Служачыя павінны далікатна абходзіцца з наведчыкамі і захоўваць цішыню ў час працы.

16. Служачыя павінны ашчадна абходзіцца з усімі матар'яламі і прыладамі, якімі яны карыстаюцца ў час працы, пасьля сканчэньня работы служачыя павінны прыбраць з стала ва ўстаноўленае месца ўсе канцылярскія прылады, спэцвопратку і інш.

Асобы, якія карыстаюцца арыфмомэтрамі, машынкамі і інш., павінны захоўваць іх у належным парадку, і калі яны зломяцца—паведамляць адміністрацыю.

17. Забараняецца:

а) браць якую-небудзь маемасьць з установы, а таксама службовыя паперы без дазволу адміністрацыі;

б) карыстацца без дазволу адміністрацыі прыладамі, машынамі і інш. не для службовых патрэб у рабочы, а таксама і не ў рабочы час;

в) чытаць газэту, кніжку, калі гэта не выклікаецца службовымі патрэбамі;

г) няслужбовыя гутаркі ў рабочы час;

д) прыймаць наведчыкаў па няслужбовых справах;

е) груба абходзіцца з наведчыкамі, а таксама рабіць спрэчкі паміж работнікамі.

*III. Узаемаадносіны адміністрацыі з рабочымі і служачымі.*

18. Прыйманьне на работу афармляецца рэзалюцыяю (паказаць асобу, якая карыстаецца правам найманьня), загадам па ўстанове, выдачаю разьліковай кніжкі, запаўненьнем працоўнага сьпісу.

19. Папярэджаньне аб звальненьні паводле Кодэксу Законаў аб Працы павінна быць зроблена ў пісьмовай форме—запісам у разьліковай кніжцы альбо загадам.

20. Пры звальненьні служачы разам з разьлікам атрымоўвае пасьведчаньне аб службе, у якім павінна быць паказана, з якога часу па які ён працаваў ва ўстанове, якія пасады займаў, разьмер акладаў, карыстаньне водпускам, альбо атрыманьне кампэнсацыі.

21. Адміністрацыя павінна выдаваць заработную плату ў рабочы час . . . . . за першую палову м-ца і . . . . . за другую палову м-ца.

22. Адміністрацыя павінна выдаць служачым не пазьней сямі дзён пасьля пачатку работы, а прынятым на спробу—пасьля сканчэньня спробнага тэрміну, разьліковыя кніжкі ўстаноўленай формы.

23. Адміністрацыя павінна рабіць заўвагі і распараджэньні служачым у ветлівай форме.

24. Адміністрацыя павінна пры найманьні на работу паведамляць кожнага служачага аб яго абавязках і таксама аб тым, каму ён падпарадкаваны, і гэтыя зьвесткі ўносяцца ў разьліковую кніжку. Асобы, якія ня маюць належных паўнамоцтваў ад адміністрацыі ўстановы, ня маюць права ўмешвацца ў работу служачых.

25. Калі работа, даручаная служачаму, ня можа быць скончана ва ўстаноўлены тэрмін, то ён павінен паведаміць аб гэтым свайго беспасрэднага начальніка.

26. Адміністрацыя ня мае права патрабаваць ад служачых работы, якая не ўваходзіць у абсяг іх абавязкаў (апроч выпадкаў, пра-

дугледжаных арт. 36 Кодэксу Законаў аб Працы), а таксама патрабаваць ад служачых выкананьня даручэньняў і работ, якія маюць няслужбовы характар.

27. Адміністрацыя павінна забесьпячаць служачых усімі патрэбнымі для работы матар'яламі. Служачыя павінны паведамляць адміністрацыю ва ўстаноўленым парадку аб патрэбных ім матар'ялах.

### IV. *Санітарна-гігіенічныя ўмовы месца працы.*

28. Памяшканьне для працы павінна адпавядаць устаноўленым адпаведнымі органамі правілам санітарыі і гігіены і агульным патрабаваньням аховы працы.

29. Адміністрацыя павінна мець ва ўстанове рукамыйнікі для мыцьця рук, мыла і чыстыя ручнікі. У час працы ва ўстанове павінна быць гатаваная вада і пасуда для піцьця.

30. Ва ўстанове павінны быць заходы (уборныя), якія павінны утрымоўвацца ў чыстаце.

У памяшканьнях павінна быць нармальная тэмпэратура, належная вэнтыляцыя, рабіцца праветрываньне і прыбіраньне.

31. Адміністрацыя павінна даваць належнае памяшканьне для захаваньня адзеньня служачых і спэцвопраткі.

### V. *Меры дысцыплінарных пакараньняў.*

32. Нарушэньне альбо невыкананьне гэтых правілаў выклікае дысцыплінарныя пакараньні паводле таблі (Дадатак).

### VI. *Парадак ажыцьцяўленьня гэтых правілаў.*

33. Нагляд за выкананьнем гэтых правілаў ускладаецца на адміністрацыю ўстановы.

34. Правілы ўнутранага парадку павінны быць вывешаны на відным месцы ў рабочых памяшканьнях.

---

ДАДАТАК ДА ТЫПОВЫХ ПРАВІЛАЎ
УНУТРАНАГА ПАРАДКУ.

## ТЫПОВАЯ ТАБЛЯ ПАКАРАНЬНЯЎ.

I. За нарушэньне правілаў унутранага парадку могуць накладацца наступныя пакараньні:

1) выгавар з абвяшчэньнем па ўстанове і з паведамленьнем мясцовага камітэту;

2) з в а л ь н е н ь н е.

II. Пакараньні накладаюцца адміністрацыяю. Звальненьне дапушчаецца толькі паводле згоды РКК.

III. Распараджэньне адміністрацыі аб накладаньні пакараньня можа быць абскарджана ў канфліктным парадку. Падача скаргі не прыпыняе выкананьня пакараньня.

IV. Пакараньні за нарушэньне правілаў унутранага парадку могуць накладацца не пазьней месяца ад дня выяўленьня ўчынку. Калі на працягу 6 месяцаў пасьля накладаньня пакараньня (у адно-

сінах да ўчынкаў, прадугледжаных п. п. „г“ і „д“ арт. VI—1 месяца) ня будзе накладзена новае дысцыплінарнае пакараньне, то пастанова аб накладаньні дысцыплінарнага пакараньня траціць сілу.

V. Звольненыя паводле гэтай таблі не атрымоўваюць выхадной дапамогі і не папярэджваюцца за два тыдні.

VI. Службовыя ўчынкі, якія выклікаюць паказаныя ў арт. I пакараньні, падзяляюцца на 2 катэгорыі:

*1-ая катэгорыя:*

а) нядбайныя адносіны да прыладаў, дадзеных для выкананьня службовых абавязкаў, у выніку чаго гэтыя прылады папсаваны альбо страчаны;

б) карыстаньне рознымі прыладамі для няслужбовых мэт, а таксама маемасьцю ўстановы і службовымі паперамі без дазволу адміністрацыі;

в) гутаркі няслужбовага характару ў час працы, прыйманьне наведчыкаў па асабістых справах у рабочы час;

г) спазьненьне на працу, адход у час працы без дазволу, адход з працы раней вызначанага тэрміну, невыкананьне існуючых ва ўстанове правілаў кантролю за сваячасным прыходам і адходам служачых;

д) прагул.

*Увага.* Пакараньні за ўчынкі, прадугледжаныя п. п. „г“ і „д“, могуць ужывацца толькі тады, калі ўчынкі зроблены без важных прычын.

*2-ая катэгорыя:*

а) даваньне пераваґі аднаму наведчыку перад другім, якое не выклікана сапраўднаю патрэбаю (пратэкцыянізм);

б) грубыя адносіны да наведчыкаў;

в) невыкананьне законных распараджэньняў адміністрацыі па пытаньнях, якія ўваходзяць у абавязкі работніка;

г) прыход на працу п'яным.

VII. Паказаныя ў арт. VI пакараньні накладаюцца ў наступным парадку:

а) учынкі 1 катэгорыі, зробленыя да двух раз, і ўчынкі 2 катэгорыі, зробленыя 1 раз—выклікаюць 1 меру пакараньня;

б) учынкі 1 катэгорыі, зробленыя ў 3 раз, і ўчынкі 2 катэгорыі, зробленыя 2 раз—выклікаюць 2 меру пакараньня;

VIII. Адход у час работы без дазволу адміністрацыі да 2-х раз на працягу месяца, а таксама прагул да 2-х дзён на працягу месяца выклікаюць 1 меру пакараньня, адход у час працы без дазволу адміністрацыі ў 3-ці раз на працягу месяца, альбо прагул 3-х і больш дзён у месяцы—2 меру пакараньня.

IX. Спазьненьне на працу да 3-х раз на працягу месяца выклікае 1 меру пакараньня, спазьненьне больш 3-х раз на працягу месяца—2 меру.

---

## 5. Тлумачэньне Народнага Камісарыяту Працы БССР

ПРА ВЫКАНАНЬНЕ ПАСТАНОЎ КАНФЛІКТНЫХ ОРГАНАЎ, ЗЬВЯЗАНЫХ З ЗВАЛЬНЕНЬНЕМ РАБОЧЫХ І СЛУЖАЧЫХ ПАВОДЛЕ п. п. „в“ і „г“ АРТ. 47 КОДЭКСУ ЗАКОНАЎ АБ ПРАЦЫ.

З тае прычыны, што ёсьць непаразуменьні пры звальненьні рабочых і служачых на падставе пастаноў канфліктных органаў паводле п. п. „в“ і„ г“ арт. 47 Кодэксу Законаў аб Працы, Народны Камісарыят Працы БССР растлумачвае:

1. Пастановы канфліктных органаў па пытаньні аб звальненьні, паводле п. п. „в“ і „г“ арт. 47 Кодэксу Законаў аб Працы маюць сілу толькі на працягу 7 дзён пасьля вынясеньня пастановы, альбо тэрміну, устаноўленага канфліктным органам.

2. Наймальнікі, якія ў паказаны у арт. 1 тэрмін ня звольнілі работніка, трацяць права на звальненьне, калі няма іншых матываў для звальненьня, паводле арт. 47 Кодэксу Законаў аб Працы.

Нам. Народнага Камісара Працы
БССР **Я. Мяркулаў.**

За Сакратара Народнага Камісарыяту Працы
БССР **П. Багушэўскі.**

30 мая 1928 г.
№ 39.

---

## 6. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

ПРА ЎМОВЫ ПРАЦЫ ПА СУМЯШЧЭНЬНІ.

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Сумяшчэньнем зьяўляецца выкананьне аднэю і тэю самаю асобаю работы ў наймах у 2-х альбо некалькіх установах ці прадпрыемствах

2. Сумяшчэньне пасад у некалькіх дзяржаўных, каперацыйных і грамадзкіх установах альбо прадпрыемствах дапушчаецца толькі па ўзаемнай згодзе кіраўнікоў гэтых устаноў альбо прадпрыемстваў і з дазволу акруговых інспэкцый працы.

Акруговыя інспэкцыі працы даюць дазвол на сумяшчэньне толькі тады, калі на падліку бірж працы няма беспрацоўных адпаведнай кваліфікацыі.

3. Сумяшчэньне работы ў дзяржаўных, каперацыйных і грамадзкіх установах альбо прадпрыемствах з работаю ў прыватных установах альбо прадпрыемствах, а таксама ва ўстановах з удзелам прыватнага капіталу забараняецца.

4. Сумяшчэньне пасад у дзяржаўных, каперацыйных і грамадзкіх установах альбо прадпрыемствах забараняецца тады , калі гэтыя установы ці прадпрыемствы, альбо сумяшчальныя пасады знаходзяцца у кантрольнай альбо адміністрацыйна-гаспадарчай падпарадкаванасьці; таксама забараняецца сумяшчэньне двух пасад у аднэй і тэй-жа установе альбо прадпрыемстве.

*Увага*. Арт. арт. 3 і 4 гэтай пастановы не пашыраюцца на кваліфікаваны мэдыцынскі пэрсанал.

5. Не зьяўляецца сумяшчэньнем: а) пэдагагічная, мастацкая і літаратурная работа; б) выкананьне навукова-тэхнічных работ па спэцыяльных заданьнях і в) выкананьне розных абавязкаў у аднэй і тэй-жа установе альбо прадпрыемстве, калі гэта ўваходзіць у функцыі работніка.

*Увага.* Выкладаньне больш двух кампллектаў у школах дазваляецца ў адпаведнасьці з артыкулам 2 гэтай пастановы.

6. Плата за работу па сумяшчэньні вызначаецца па згодзе старон, пры чым пры ўстанаўленьні разьмеру платы кіраўнікі ўстаноў і прадпрыемстваў павінны мець на ўвазе маштаб і характэр работы, якая выконваецца адначасна бяз шкоды для працы даным работнікам у 2-х альбо больш установах і заключаць з асобамі, што працуюць па умяшчэньі, працоўныя дагаворы ў пісьмовай форме, абавязкова вызначыўшы, які час яны павінны працаваць у гэтай установе. Максімальным разьмерам платы па сумяшчэньні ўстанаўляецца 540 рублёў у месяц.

*Увага.* Пры сумяшчэньні дазваляецца выплата няпоўнага нармаванага акладу па кожнай з займаемых пасад з наступным паведамленьнем аб гэтым органаў Народнага Камісарыяту Працы.

7. Прыйманьне на роботу, а таксама пакіданьне на пасадзе работнікаў з парушэньнем арт. арт. 2, 3, 4 і 6 гэтай пастановы караецца ў адміністрацыйным альбо крымінальным парадку.

8. Асобы, прынятыя на работу па сумяшчэньні пасьля ўвядзеньня ў сілу гэтай пастановы з парушэньнем устаноўленых у ёй правілаў, павіны быць звольнены без папярэджаньня і без выплаты выхадной дапамогі.

9. Усе ўстановы і прадпрыемствы, у якіх ёсьць работнікі, што працуюць па сумяшчэньні, павінны на працягу двух месяцаў ад дня абвяшчэньня гэтай пастановы атрымаць дазвол ад акруговых інспэкцый працы на сумяшчэньне; калі такі дазвол ня будзе атрыман, то асобы, што працуюць па сумяшчэньні, павінны быць звольнены з устаноў і прадпрыемстваў, у якіх яны працуюць па сумяшчэньні, паводле правілаў, устаноўленых арт. 88 Кодэксу Законаў аб Працы.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

За сакратара Народнага Камісарыяту Працы БССР **П. Багушэўскі.**

Узгоднена з ЦСПСБ—Член Прэзыдыуму ЦСПСБ **Розін.**

1 чэрвеня 1928 г.
№ 40.

---

Узгоднена з ЦСПСБ.

## 7. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### ПРА АПЛАТУ ЗА РАБОТУ Ў СЬВЯТОЧНЫЯ, АСОБНЫЯ І ШТОТЫДНЁВЫЯ ДНІ АДПАЧЫНКУ.

Народныя Камісарыяты Працы і Юстыцыі БССР пастанаўляюць:

1. Работа ў сьвяточныя, асобныя і штодыднёвыя дні адпачынку ў дзяржаўных, грамадзкіх і каперацыйных установах і прадпрыемствах дазваляецца ў выключных выпадках паводле арт. 104 Кодэксу Законаў аб Працы і толькі на падставе загаду наймальніка, данага ў пісьмовай форме.

2. Аплата за работу ў сьвяточныя, асобныя і штотыднёвыя дні адпачынку робіцца ў парадку, устаноўленым пастановаю ЦВК і СНК

БССР за 15 верасьня 1927 г. „Аб аплаце звышмерных работ у дзяржаўных, грамадзкіх і каперацыйных установах і прадпрыемствах“ (З. З. БССР 1927 г., № 36, арт. 191).

*Увага.* Пытаньне аб аплаце за работу ў сьвяточныя, асобныя і штотыднёвыя дні адпачынку работнікаў з ненармаваным рабочым днём вызначаецца паводле пастановы Н.К.Працы СССР за 13 лютага 1928 г., № 106 (Известия Н.К.Труда 1928 г., № 9-10).

III. Права на іск аб аплаце за работу ў сьвяточныя, асобныя і штотыднёвыя дні адпачынку ў адпаведнасьці з арт. 93[1] Кодэксу Законаў аб Працы спыняецца пасьля сканчэньня шасьцімесячнага тэрміну ад дня выдачы наймальнікам загаду аб рабоце ў гэтыя дні.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **Я. Бутар.**

16 чэрвеня 1928 г.
№ 41.

---

## 8. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

ПРА ЎВЯДЗЕНЬНЕ Ў СІЛУ НА ТЭРЫТОРЫІ БССР АБАВЯЗКОВАЙ ПАСТАНОВЫ НКП СССР ЗА 10 МАЯ 1928 г. № 296 „ПРАВИЛА О МЕРАХ ПРЕДОХРАНЕНИЯ РАБОЧИХ ОТ ЗАРАЖЕНИЯ СИБИРСКОЙ ЯЗВОЙ В ПРЕДПРИЯТИЯХ, В КОТОРЫХ ПРОИЗВОДИТСЯ ОБРАБОТКА ЖИВОТНОГО СЫРЬЯ“.

Народны Камісарыят Працы БССР, на падставе арт. 21 абавязковай пастановы Народнага Камісарыяту Працы СССР за 10 мая 1928 г. № 296 „Правила о мерах предохранения рабочих от заражения сибирской язвой в предприятиях, в которых производится обработка животного сырья“ (Известия Н.К.Труда 1928 г., № 21) **пастаноўляе** ўвесьці паказаную вышэй абавязковую пастанову ў сілу на тэрыторыі БССР.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

За Сакратара Народнага Камісарыяту Працы БССР **П. Багушэўскі.**

26 чэрвеня 1928 г.
№ 42.

---

## 9. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР

ПРА СКАСАВАНЬНЕ АБЕЖНІКУ НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ ПРАЦЫ БССР ПА ПЫТАНЬНІ АБ АБМЕНЕ ЛІШКАМІ РАБОЧАЙ СІЛЫ.

*Усім інспэкцыям працы.*

На падставе арт. 3 пастановы Народнага Камісарыяту Працы СССР за 23 красавіка 1928 г. № 248 „Об утверждении положения об обмене излишками спроса и предложения труда квалифицированных рабочих и служащих“ (Известия Н.К.Труда 1928 г., № 21) Народны Камісарыят Працы БССР паведамляе, што з моманту ўвядзеньня ў сілу паказанага вышэй палажэньня абежнікі Народнага Камісарыяту Працы БССР за 18 ліпеня і 8 верасьня 1925 году па пытаньні аб абмене лішкамі рабочай сілы лічацца страціўшымі сілу.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

За Сакратара Народнага Камісарыяту Працы БССР **П. Багушэўскі.**

26 чэрвеня 1928 г
№ 43.

---

## 10. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

ПРА ДАПАЎНЕНЬНЕ ПАСТАНОВЫ НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ ПРАЦЫ БССР ЗА 11 САКАВІКА 1927 г. № 43 „ПРА ЗАЦЬВЕРДЖАНЬНЕ СЬПІСУ СЭЗОННЫХ РАБОТ У СЕЛЬСКАЙ І КАМУНАЛЬНАЙ ГАСПАДАРКАХ".

На падставе пастановы Народнага Камісарыяту Працы СССР за 5 красавіка 1928 г. № 207 „О порядке применения постановления ЦИК и СНК СССР от 4 июня 1926 г. „Об условиях труда на сезонных работах" („Известия Н. К. Труда 1928 г., № 15/16)" Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе дапоўніць сваю пастанову за 11 сакавіка 1927 г., № 43 „Пра зацьверджаньне сьпісу сэзонных работ у сельскай і камунальнай гаспадарках" (Бюлетэнь СНК БССР 1927 г. № 7.), артыкулам 3 наступнага зьместу:

„Пастанова ЦВК і СНК СССР за 4 чэрвеня 1926 г. пашыраецца на ўсе работы, пералічаныя ў сьпісах сэзонных работ, зацьверджаных Народным Камісарыятам Працы СССР, калі гэтыя работы ўжываюцца ў сельскай і камунальнай гаспадарках".

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

За Сакратара Народнага Камісарыяту Працы БССР **П. Багушэўскі.**

Узгоднена з ЦСПСБ: Адносьнік ЦСПСБ за 27 чэрвеня 1928 г. № 300(00)16.

30 чэрвеня 1928 г.
№ 44.

---

## 11. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

ПРА ЎМОВЫ І ПАДСТАВЫ ЎЖЫВАНЬНЯ НАЙМОВАЙ ПРАЦЫ Ў ПРАДПРЫЕМСТВАХ СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧЫХ КАЛЯКТЫВАЎ.

Для разьвіцьця арт. 11 пастановы СНК БССР за 1 лютага 1928 г. „Пра перадачу сельска-гаспадарчым калядтывам прамысловых і дапаможных прадпрыемстваў" (З. З. БССР 1928 г., № 10, арт. 79) Народныя Камісарыяты Працы і Земляробства БССР пастанаўляюць:

1. Наймовая рабочая сіла кваліфікаваных рабочых і спэцыялістаў у прадпрыемствах, якія эксплёатуюцца сельска-гаспадарчымі каляктывамі, можа ўжывацца для наступных работ:

а) па земляробству і лесагадоўлі—аграном, лесавод;

б) па садоўніцтву і гародніцтву—садоўнік і гароднік;

в) па гадоўлі жывёлы і птушніцтву—спэцыялісты па гадоўлі жывёлы, птушнік, вэтэрынарны лекар;

г) па рамонту і мантажу сельска-гаспадарчых машын—каваль, сьлюсар, сталяр;

д) на млынох—млынары, машыністы;

е) на лесапілках—піластаў, рольшчык, машыніст;

ж) на крухмальных заводах—крухмальшчык;

з) на броварах—вінакуры, машыністы;

і) па малачарству—сыравары, масларобы.

2. Умовы наймовай працы ў прадпрыемствах сельска-гаспадарчых каляктываў вызначаюцца паводле Кодэксу Законаў аб Працы з тым, што звышмерная праца ў летні час для паказаных у арт. 1 гэтай інструкцыі работнікаў, работа якіх зьвязана з летнім сэзонам,

дагваляецца ў адпаведнасьці з пастановаю Народнага Камісарыяту Працы БССР за 25 мая 1926 г. № 37 (Бюлетэнь СНК БССР 1926 г., № 8).

3. Умовы працы сэзонных і часовых рабочых і служачых вызначаюцца адпаведнымі пастановамі ЦВК і СНК СССР за 4 чэрвеня 1926 г. (З. З. СССР 1926 г., № 40, арт. 290) і за 14 студзеня 1927 г. (З. З. СССР 1927 г., № 9, арт. 80).

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Народны Камісар Земляробства БССР **З. Прышчэпаў.**

Узгоднена з ЦП Прафсаюзу сельска-гаспад. і лясных раб.— Адносьнак № 2041 за 23 чэрвеня 1928 г.

4 ліпеня 1928 г.
№ 45.

---

## 12. Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

ПРА МЕРАПРЫЕМСТВЫ ДЛЯ ЎЗМАЦНЕНЬНЯ КАНТРОЛЮ РЭВІЗІЙНЫХ КАМІСІЙ ЗА СКАРЫСТАНЬНЕМ СРОДКАЎ, АТРЫМАНЫХ У ПАРАДКУ САМААБКЛАДАНЬНЯ.

*Акруговым фінансавым аддзелам.*

У зьвязку з асабліва важным значэньнем, якое мае самаабкладаньне насельніцтва, што праводзіцца цяпер, Народны Камісарыят Фінансаў ужо даваў акруговым фінансавым аддзелам шэраг паказаньняў аб мерапрыемствах, якія павінны ўжывацца аддзеламі для ўрэгуляваньня гэтага пытаньня.

Маючы на ўвазе, што самаабкладаньне можа прывесьці да добрых вынікаў толькі тады, калі сабраныя сродкі будуць плянава, гаспадарча і на адпаведнае прызначэньне скарыстоўвацца, што ў сваю чаргу выкліча ажыцьцяўленьне сапраўднага грамадзкага кантролю ў гэтым кірунку, Народны Камісарыят Фінансаў ужо не адзін раз зазначаў акруговым фінансавым аддзелам на патрэбу зрабіць уплыў на сельскія, а ў належных выпадках, пры перадачы сродкаў раённым выканаўчым камітэтам, і на раённыя рэвізійныя камісіі для ўзмацненьня іх работы ў гэтай галіне.

Зварочваючыся да канкрэтных захадаў, якія павінны быць ужыты акруговымі аддзеламі зараз Народны Камісарыят Фінансаў лічыць патрэбным, каб акруговыя фінансавыя аддзелы праз акруговыя выканаўчыя камітэты неадкладна накіравалі раённым і сельскім рэвізійным камісіям лісты, паказаўшы ў іх асноўныя рысы практычна й работы камісій ў гэтай галіне.

Камісіі павіны галоўную ўвагу зварочваць на наступнае:

1. Ці ёсьць ў сельскіх саветах, а ў належных выпадках у раённых выканаўчых камітэтах пляны скарыстаньня сродкаў. На ўсякае расходваньне грошай, на выкананьне усякай работы загадзя трэба скласьці фінансавы плян. У гэткім пляне павінны быць прадугледжаны дакладныя разьмеры работы, колькасьць і разрахунак кошту матар'яляў кожнага віду, патрэбная колькасьць рабочай сілы і разьмер аплаты яе, спосаб вядзеньня работ, парадак іх вядзеньня і тэрміны. Без такіх плянаў няможна здавальняюча правесьці работу, бо вызначэньне мэты сходам яшчэ не вызначае спосабаў, а таму і рэальнага кошту і магчымых разьмераў правядзеньня работ.

2. Другое пытаньне, якое павінна цікавіць рэвізійную камісію, гэта праверка таго, як выкананы гэты плян. Гэта азначае ня толькі тое, што рэвізійныя камісіі павінны ўстанавіць, што зроблена на сабраныя сродкі, альбо ці адпавядае праведзеная работа тэй мэце, якая была вызначана сходам, але таксама і тое, што яны павінны параўнаць выкананую работу з плянам, высьвятліць, ці выкананы плян цалком, альбо толькі часткова, чаму ён ня выкананы цалком, ці адпавядае ступень выкананьня пляну ступені скарыстаньня сродкаў, у належным выпадку—прычыны неадпавяданьня.

Гэтыя паказаньні адносяцца ў першую чаргу да найбольш вялікіх работ (будаваньне школ, рамонт дарог і інш.).

3. Нарэшце рэвізійныя камісіі павінны цікавіцца пытаньнямі аб захаваньні грошай, маючы на ўвазе, што паводле інструкцыі Народнага Камісарыяту Фінансаў „Пра парадак прыйманьня, захаваньня і выдаткаваньня сродкаў па самаабкладаньні“ (Бюлэтень СНК БССР 1928 г., № 3, стар. 51), усе вольныя грошы па самаабкладаньні павінны ўносіцца на захаваньне на процантавыя бягучыя рахункі ва ўстановы Дзяржаўнага Банку, або ў дзяржаўныя працоўныя ашчадныя касы.

Агульныя даныя аб парадку рэвізійнай работы камісій дакладна высьвятлены ў інструкцыі Кіраўніцтва Дзяржаўнага Фінансавага Кантролю пры НКФ за 6 сакавіка 1928 году (Бюлетэнь СНК БССР, № 3, п. 35), паказаньнямі якой камісіі таксама павінны кіравацца пры вядзеньні рэвізіі.

Разам з гэтым, для таго, каб палепшыць і палегчыць работу рэвізійных камісій сельскіх саветаў трэба падняць пытаньне аб узмацненьні агульнага кіраваньня і інструктаваньня іх раённымі выканаўчымі камітэтамі.

Вялізарнае значэньне, якое маюць задаволеньне праз самаабкладаньне сапраўдных патрэб насельніцтва і правільнае выкананьне сельскімі саветамі і раённымі выканаўчымі камітэтамі пастаноў сходаў, патрабуе прыцягненьня да гэтага пытаньня самай сур'ёзнай увагі ўсіх мясцовых органаў.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР **Л. Бунін.**

Час. вык. аб. Начальніка Кіраўніцтва Дзяржаўнага Фінансавага Кантролю **Варушыла.**

12 чэрвеня 1928 г.
6001—7.

---

## 13. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### ПРА ЗЬНІЖЭНЬНЕ ГРАНІЧНЫХ ВЫТВОРЧЫХ АДПУСКНЫХ ЦЭН НА БУДАЎНІЧЫЯ ЛЕСАМАТАР'ЯЛЫ.

На аснове п. п. „м“ і „о“ арт. 4 Часовага Палажэньня аб Народным Камісарыяце Ўнутранага Гандлю БССР, пастановы Эканамічнай Нарады пры СНК БССР за 14 мая 1928 г. (прат. № 16) і для зьмены сваёй пастановы за 31 мая 1927 г. № 38, Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць наступныя гуртовыя максімальна-гранічныя адпускныя вытворчыя цэны на будаўнічыя лесаматар'ялы пры суадносінах гатункаў і разьмераў, паводле арт. 1-га пастановы Народнага Камісарыяту Гандлю БССР № 38 за 31/V 1927 г., франко вагон ст. адпраўленьня, ці франко баржа (а для бярвеньняў—ці чыстая вада)

прыстані адпраўленьня бліжэйшых да месца знаходжаньня вытворчага прадпрыемства:

а) хваёвыя бярвеньні 17 руб. 30 к. куб. мэтр,

б) падтаварныя хваёвыя бярвеньні 14 руб куб мэтр,

в) хваёвыя дошкі 1-га гатунку 38 р. 80 к., 2-га гатунку—34 р. 92 к., 3-га гатунку—31 р. 04 к., а ў сярэднім пры водпуску ў поўным асартымэнце, ўстаноўленым пастановаю Народнага Камісарыяту Гандлю № 38, 33 руб. 97 коп. за куб. мэтр.

г) рэйкі і крэсьнікі 1-га гатунку—42 р. 68 к., 2-га гатунку—38 р. 41 к.

2. Іншыя цэны, прадугледжаныя пастановаю № 38 за 31/V 1927 г., пакінуць бяз зьмен.

3. Памянёныя ў арт. 1-м гэтай пастановы цэны пашыраюцца на ўсе дзяржаўныя і каперацыйныя вытворчыя арганізацыі БССР, у тым ліку лесазагатоўчыя органы Народнага Камісарыяту Землярobства (лесзагі), і на ўсе дагаворы, складзеныя імі пасьля 15 лістападу 1927 г.

4. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 141 Кр. Кодэксу.

Нам. Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **К. Верамейчык.**

13 чэрвеня 1928 г,
№ 45.

---

## 14. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### ПРА ЗЬМЕНУ СТАНДАРТАЎ НА ПЕЧАНЫ ЖЫТНІ І ПШАНІЧНЫ ХЛЕБ І ПРА ЎСТАНАЎЛЕНЬНЕ ЦЬВЁРДЫХ ЦЭН НА АПОШНІ.

У зьвязку з зьменаю стандартаў на жытнюю і пшанічную муку, Народны Камісарыят Гандлю БССР, на падставе п. п. „в“ і „м“ арт. 4 Часовага Палажэньня аб Народным Камісарыяце Ўнутранага Гандлю БССР (З. З. БССР 1924 г. № 25-26, арт. 227) і загаду Народнага Камісарыяту Гандлю СССР за 6/VI 1928 г., № в/3312 і за 6/VI 1928 г., № 6/3316, для зьмены сваіх пастаноў за 31/X 1927 г. № 57 і за 8/II 1928 г., № 13, п а с т а н а ў л я е:

1. Устанавіць для дзяржаўных, каперацыйных і прыватных хлебапякарных прадпрыемстваў ва ўсіх мясцовасьцях БССР толькі наступныя гатункі жытняга і пшанічнага хлеба:

### 1. Жытні хлеб.

а) Р а з а в ы—выпякаецца з жытняй мукі абойнага памолу выхадам 95 проц. Зольнасьць ня больш 1,9 проц.

### 2. Пшанічны хлеб.

а) Р а з а в ы—выпякаецца з пшанічнай мукі абойнага памолу выхадам 95 проц. Зольнасьць ня больш 1,9 проц.

б) П а л е п ш а н ы—выпякаецца з пшанічнай мукі аднагатункавага памолу выхадам 80 проц. з дабаўленьнем ня менш 1,8% цукру. Зольнасьць ня больш 1 проц.

*Увага.* Запасы пшанічнай мукі трохгатункавага памолу павінны быць скарыстаны для выпечкі пшанічнага хлеба палепшанага гатунку (80 проц.), для чаго гэта мука павінна выпя-

кацца з наступнай мешаніны: 1-га гатунку — 40 проц., 2-га гатунку—40 проц. і 3-га гатунку—20 проц. з дабаўленьнем ня меньш 2,5 проц. цукру. Зольнасьць мешаніны ня больш 1 проц.

2. Печаны жытні і пшанічны хлеб павінен выпякацца ў выглядзе:

а) вагавага (каравай, калачы);

б) штучнага (франц. булкі, батоны, пляцёнкі і інш.).

Вага хлеба павінна быць наступная:

Жытняга разавага—ад 1-го да 4-х кілёгр.

Пшанічнага разавага—ад 1-го да 4-х кілёгр.
„ палепшанага (калачы)—ад 1-го да 4-х кілёгр.
„ „ франц. булкі па 200 і 300 гр.
„ „ батоны „ 300, 500 і 1000 гр.
„ „ пляцёнкі „ 300, 500 і 1000 гр.
„ „ абаранкі „ 50 грам.

*Увага.* Штучны хлеб павінен мець паказаную вагу праз 4 гадзіны пасьля выняцьця з печы. Пасьля гэтага тэрміну дапускаецца зьніжэньне вагі ў разьмеры ня больш 2,5 проц.

3. Пшанічны і жытні хлеб павінны выпякацца і выпушчацца на рынак зусім дабраякасным як па выгляду, так і па яго ўнутранай уласьцівасьці і смаку і павінны адпавядаць наступным адзнакам, што характарызуюць яго якасьць:

Вільготнасьць хлеба не павінна правышаць:
а) у жытнім хлебе . . . . . 49 проц.
б) у пшан. „ разавым . 47 проц.
в) у пшан. палепшаным . . . 42 проц.

Порыстасьць хлеба павінна быць ня меншаю:

а) у жытнім хлебе . . . . . 44 проц.
б) у пшан. разавым . . . . . 49 проц.
в) у „ палепшаным . . . 74 проц.

Кісласьць хлеба не павінна правышаць:

а) у жытнім хлебе . . . . . 12 град.
б) у пшанічн. разавым . . . . 8 град.
в) у „ палепшаным . . 3 град.

4. Паказаныя вышэй стандарты печанага жытняга і пшанічнага хлеба ўвесьці ва ўсіх дзяржаўных, каперацыйных і прыватных хлебапякарных прадпрыемствах з 15 чэрвеня 1928 г.

5. Акруговыя інспэктары гандлю на працягу 10-ці дзён з моманту апублікаваньня гэтай пастановы павінны распрацаваць і ўвесьці ў жыцьцё цьвёрдыя цэны на паказаныя вышэй гатункі жытняга і пшанічнага хлеба (па асобных вырабах), які выпякаецца на дзяржаўных і каперацыйных прамысловых хлебапякарных прадпрыемствах, выходзячы з кошту мукі і матар'ялаў, а таксама з кошту выдаткаў па вытворчасьці, рэалізацыі і нармальнага прыбытку, пры чым устаноўленыя акруговымі інспэктарамі гандлю цьвёрдыя цэны на печаны хлеб не павінны перавышаць наступныя гранічна-максімальныя цэны:

| ГАТУНКІ ХЛЕБА. | Формы вырабу | Цана за адзінку ў кап. | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Штучны. | | | | Штучны і вагавы. |
| | | 50 гр. | 200 гр. | 300. | 500 гр. | 1000 грам (1 к-о) |
| Жытні разавы (95%) | Каравai | — | — | — | — | 10 |
| Пшанічны (95%) | каравaі, калачы | — | — | — | — | 19 |
| „ палепш. (80%) | калачы | — | — | — | — | 25 |
| „ „ | франц. булкі | — | 7 | 10 | — | — |
| „ „ | батоны | — | — | 10 | 16 | 31 |
| „ „ | пляцёнкі | — | — | 10 | 16 | 31 |
| „ „ | абаранкі | 2 | — | — | — | — |

6. Нагляд за выкананьнем гэтай пастановы ў адносінах да адпавяданьня якасьці хлеба, а таксама і захаваньня дзяржаўнымі і каперацыйнымі прадпрыемствамі ўстаноўленых цэн ускладаецца на акруговых інспэктароў гандлю і Дзяржаўную Адзіную Хлебную Інспэкцыю па належнасьці.

7. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 141 Крым. Код.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **К. Верамейчык.**

14 чэрвеня 1928 г.
№ 46.

---

## 15. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

ПРА УТРЫМАНЬНЕ СКЛАДАЎ І ПРА ПАРАДАК ЗАХАВАНЬНЯ СКУРАНАГА СЫРЦУ.

На падставе пастановы СНК БССР за 30 студзеня 1928 г. „Пра мерапрыемствы для рэгуляваньня рынку скуранага сырцу“ Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе ўвесьці ў сілу наступную інструкцыю:

### 1. Агульныя палажэньні.

1. Склады для апрацоўкі і захаваньня скуранага сырцу ўпарадкоўваюцца ў адпаведнасьці з паказаньнямі санітарнага і вэтэрынарнага нагляду і аховы працы.

2. Рабочыя, занятыя апрацоўкаю і сартаваньнем скуранага сырцу, павінны быць забясьпечаны належнаю спэцвопраткаю.

### 2. Унутранае абсталяваньне і ўтрыманьне складаў скуранага сырцу.

3. Памяшканьні для апрацоўкі і захаваньня скуранага сырцу павінны быць прасторнымі, сьцены павіны быць непранікальнымі для вадкасьці.

4. Падлогі ў аддзяленьнях складу,дзе захоўваецца мокра-сольны сырэц, павінны быць асфальтавыя альбо цэмэнтавыя, якія лёгка можна ачышчаць з належным ухілам і з жалабамі для сьцёку вадкасьці; ў аддзяленьнях, дзе захоўваецца сухі сырэц дазваляецца рабіць дзеравянныя падлогі.

5. Страха, калі яна з бляхі, павінна быць падшыта дзеравам, альбо агароджана стольлю.

6. Прыймальнікі для зьбіраньня бруду і прамываньня вод павінны быць упарадкаваны паводле санітарных правіл.

7. Адкіды, якія зьбіраюцца ў прыймальніках, павінны быць сваячасна выдалены і вывезены ў мясцы, паводле паказаньняў санітарнага нагляд.

Характар зьнішчэньня альбо скарыстаньня адкідаў вызначаецца вэтэрынарна-санітарным наглядам.

8. Склады павінны быць ў высатарчальнай меры забясьпечаны вадою.

9. Для належнага натуральнага асьвятленьня склады павінны быць забясьпечаны вокнамі, пабудаванымі ў адпаведнасьці з патрабаваньнямі захаваньня скуранага сырцу.

10. На складах павінна быць адведзена асобнае месца для захаваньня солі ў спэцыяльных скрынях.

## 3. Прыйманьне і парадак захаваньня скуранага сырцу.

11. Скураны сырэц, які паступае на склады, павінен здавацца з ўстаноўленымі вэтэрынарнымі пасьведчаньнямі альбо, калі няма вэтэрынарнага нагляду ў раёнах загатоўкі, з пасьведчаньнямі сельскіх саветаў аб тым, што ў месцы вывазу паказанага сырцу няма эпізооты.

12. Пры кансэрвіроўцы сырцу трэба кіравацца ўсесаюзным стандартам Народнага Камісарыяту Гандлю СССР на скураны сырэц.

13. Скураны сырэц, які здаецца на склады без паказаных у п. 11 пасьведчаньняў альбо падазроны ў заражэньні, павінен захоўвацца асобна і прайсьці дэзынфэкцыю, паводле існуючых вэтэрынарна-санітарных правіл.

14. Прыняты складам скураны сырэц, кансэрвіраваны макрасаленьнем, скручваецца ў пакеты і ўкладваецца на дзеравянныя памосты штабелямі, вышынею нябольш 5-6 пакетаў у кожным.

15. Штабелі ўкладваюцца на адлегласьці ня менш $1/2$ мэтра адзін ад другога і ад унутраных сьцен, каб мець магчымасьць заўсёды наглядаць за становішчам сырцу ў штабелях зусіх бакоў.

16. Калі-ні-калі штабелі перэглядаюцца і скураны сырэц падсаліваецца, каб забясьпечыць яго ад шкоды.

17. Дазваляецца захаваньне скуранага сырцу ня скручваючы ў пакеты (у расьціл) штабелямі, вышынею да $1^1/_2$ мэтры. Парадак разьмяшчэньня штабялёў той самы, што ў пункце 15.

18. Скураны сырэц, кансэрвіраны прэснаю сушкаю і сухасаленьнем, захоўваецца ў асобным сухім памяшканьні.

19. Скураны сырэц, кансэрвіраваны спасобамі, памянёнымі ў п. 17, складваецца напалову па храбту і больш не перагібаецца і павінен захоўвацца ў штабелях, вышынёю да 2-х мэтраў.

20. У летні час прэсна-сухія скуры ўстрахіваюцца калі-ні-калі, пакалачваюцца па шэрсьці тонкім прутком, каб выбіць моль, і пасыпаюцца па шэрсьці нафталінам.

21. Вокны ў складах, дзе захоўваецца скураны сырэц, з паўдневага боку павінны быць наглуха забіты. Іншыя ў сонечныя дні павінны быць завешаны.

22. Памяшканьне, дзе захоўваецца скураны сырэц, павінна праветрывацца, для чаго ўлетку на кароткі час раніцаю і ўвечары адчыняюцца вокны.

23. Пры перавозцы скураны сырэц павінен накрывацца брэзэнтам альбо шчыльна тканінаю.

24. Для пераабсталяваньня існуючых складаў скуранага сырцу, паводле гэтай інструкцыі, даецца 5 гадоў.

25. Парадак захаваньня скуранага сырцу, паводле разьдзелу в гэтай інструкцыі, уваходзяць у сілу праз 7 дзен ад дня апублікаваньня.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **К. Верамейчык.**

19 чэрвеня 1928 г.
№ 47.

---

Выданы на падставе арт. 13 і ў, разьвіцьцё п. п. „а“ і „б“ арт. 12 Вэтэрынарнага Статуту БССР і на падставе пастановы СНК БССР за 23/IX1926 г. аб санітарных органах Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя БССР (З.З. БССР 1926г., №. 37 арт. 137, § I, п. „б“, і § 4.

## 16. Правілы пра парадак перавозкі, захаваньня і гандлю мясам на тэрыторыі БССР.

§ 1. Мяса і мясныя прадукты, прызначаныя на харчы насельніцтва, могуць перавозіцца толькі ў чыстых, абітых белаю бляхаю, фурманках, пад чыстым пакрыцьцём (брэзэнт і інш. белая тканіна), якое трымаецца на асобных дугах на некаторай адлегласьці ад мяса.

§ 2. Фурману забараняецца сядзець безпасрэдна на мясе. Для сядзеньня фурманка сьпераду павінна мець спэцыяльнае сядзеньне.

*Увага.* Сяляне, якія выпадкова прывозяць ў гарады мяса імі самімі зарэзанай жывёлы, павінны мець на калёсах пад мясам густую падсьцілку з чыстай жытняй саломы, а зьверху—пакрываць чыстаю падсьцілкаю.

§ 3. Мясцы захаваньня і гандлю мясам адчыняюцца толькі пасьля папярэдняга агляду і заключэньня санітарнай арганізацыі Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя аб прыгоднасьці гэтых месц ў санітарных адносінах.

*Увага 1.* Агляд малых мясных крам, што адчынаюцца у раёнах, робіць раённы лекар.

*Увага 2.* Калі не пабудаваны новыя памяшканьні для мясных крам і адчыняюцца гуртова-розныя склады іх хоць і ў старых памяшканьнях, то павінны ўтварацца на мясцох асобныя камісіі з прадстаўнікоў. мэдыка-санітарнай і вэтэрынарна-санітарнай арганізацый і органаў мясцовай улады.

§ 4. Мясныя склады, крамы і магазыны не павінны мець ніякай сувязі з мясцамі забруджваньня (памыйныя ямы, заходы і інш.)

§ 5. Сьцены і столь павінны быць роўнымі, бяз шчылін і пабелены вапнаю альбо крэйдаю, а ў мясцох датыканьня з мясам абіты белай бляхаю.

§ 6. Падлога павінна быць шчыльная, гладкая (цэмэнтавая, асфальтавая альбо драўляная бяз шчылін).

*Увага.* У складах павінны быць сьцёкі для бруднай вады і схіл падлогі да гэтых сьцёкаў ,бруд павінен прыбірацца паводле агульных правіл санітарыі.

§ 7. Сталы, прылаўкі і паліцы, на якіх кладзецца мяса, павінны быць абіты белаю бляхаю.

§ 8. Мясныя тушы, і часьці туш павінны падвешвацца на спэцыяльна-пабудаваных крукох і на такой адлегласьці ад сьцяны, каб мяса да яе не датыкалася.

§ 9. Мяса дазваляецца прадаваць толькі абгледжанае і прапячатнае вэтэрынарнам наглядам.

§ 10. Само памяшканьне, а таксама і ўсе рэчы, што ўжываюцца ў гэтай справе (сякеры, нажы, вага і інш.) павінны трымацца ў чыстаце і мець належную вартасьць і выгляд. Прадаўцы мяса павінны быць ў чыстых белых фартухох.

§ 11. Калодкі, на якіх сячэцца мяса, па меры іх размаждженьня і прапітваньня крывёю павінны зрэзвацца, альбо састругвацца.

§ 12. У цёплы час мяса павінна ахоўвацца ад мух і пылу, для чаго трэба пакрываць яго чыстаю белаю тканінаю, зрабіць у вокнах сеткі і інш.

§ 13. У мясных крамах забараняецца трымаць, хоць-бы часова, жывую жывёлу, птушак, а таксама рэзаць іх, забараняецца захоўваць скуры і іншыя часьці, што ня ўжываюцца для яды.

§ 14. Ажыцьцяўленьне і нагляд за выкананьнем гэтых правіл ускладаецца на міліцыю, вясковую ўладу, вэтэрынарныя арганізацыі і санітарныя арганізацыі Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя.

§ 15. Асобы, вінаватыя ў парушэньні памянёных вышэй правіл, прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 219 Крымінальнага Кодэксу.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Ц. Каровікаў.**

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР **М. Барсукоў.**

Нам. Народнага Камісара Унутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

6 чэрвеня 1928 г.

---

## 17. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР.

ПРА ПАРАДАК АДНАЎЛЕНЬНЯ ПРАПАШЧЫХ АБО ПРАПУШЧАНЫХ ЗАПІСАЎ АКТАЎ НАРАДЖЭНЬНЯЎ, СЬМЕРЦЯЎ І ШЛЮБАЎ.

Для правільнай і аднастайнай пастаноўкі працы органаў ЗАГС у справе аднаўленьня прапашчых і прапушчаных запісаў актаў нараджэньняў, сьмерцяў і шлюбаў, а таксама для спрашчэньня парадку аднаўленьня гэтых запісаў пры масавай гібелі актавых (старых мэтрычных і рэгістрацыйных) кніг, Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР прапануе кіравацца наступным:

1. Прапашчыя або прапушчаныя запісы нараджэньняў, сьмерцяў і шлюбаў аднаўляюцца акруговымі і раённымі органамі ЗАГС тады:

а) калі прапалі старыя мэтрычныя або новыя рэгістрацыйныя кнігі;

б) калі прапушчаны запісы здарэньняў, нараджэньняў і сьмерцяй у старых мэтрычных кнігах;

в) калі прапушчаны запісы адзначаных здарэньняў ў рэвалюцыйны пэрыяд (прыблізна з 1917 да 1921 г.) па прычынах, што не залежаць ад самых грамадзян.

2. Калі мэтрычныя ці рэгістрацыйныя кнігі прапалі масаю, напрыклад: калі прапалі кнігі ўсяго сяла, ці некалькіх пасельнішчаў, то запісы могуць аднаўляцца і сельскімі саветамі.

3. Сэктанты, стараабрадцы і іншыя, якія не рэгіструюць нараджэньняў і сьмерцяў на грунце абраднасьцяў, падыходзяць пад палажэньне п. 1 літ. „б“ гэтай інструкцыі.

4. Паказаныя вышэй запісы аднаўляюцца толькі тады, калі ў грамадзян ёсьць довады аб тым, што яны ня могуць атрымаць патрэбных ім пасьведчаньняў аб нараджэньні, сьмерці ці шлюбе з адпаведнага органу ЗАГС.

5. Довадам таго, што яны ня могуць атрымаць пасьведчаньняў, зьяўляецца:

а) даведка мясцовага органу ЗАГС, у раёне якога быў зарэгістраваны дадзены акт;

б) даведка акруговага органу ЗАГС, у якім захоўваюцца іншыя экзэмпляры дадзеных запісаў, аб тым, што няма адзначаных кніг ці прапушчан у іх запіс;

в) іншыя дакумэнты, якім можна цалкам даверыць і якія прызнаны органам ЗАГС, зусім выстарчальнымі, а таксама паказаньні сьведак.

*Увага 1.* Калі ў грамадзян, якія заяўляюць аб аднаўленьні запісу, няма патрэбных даведак акруговага органу ЗАГС, дык такія павінны запатрабоўвацца беспасрэдна тым органам ЗАГС, які прымае заяву.

*Увага 2.* Калі ў акруговым органе ЗАГС ёсьць зьвесткі аб прапажы адпаведных актавых кніг, то даведка мясцовага органу ЗАГС не абавязкова.

6. Падставаю для аднаўленьня запісаў зьяўляюцца заявы грамадзян з дакумэнтамі, паказанымі ў п. 5 гэтай інструкцыі.

7. Заявы могуць рабіцца і ў пісьмовай і вуснай форме ў адпаведны орган ЗАГС па месцы жыцьця зацікаўленых асоб. У заяве павінна быць дакладна паказана месца і час рэгістрацыі таго ці іншага акту, а калі прапушчаны запісы, трэба паказаць, дзе адбылося здарэньне нараджэньня ці сьмерці.

8. Адноўленыя запісы запісваюцца на агульных падставах у адпаведныя рэгістрацыйныя кнігі, вызначаныя для гэтай мэты на цэлы шэраг гадоў да поўнага іх скарыстаньня.

9. Другія экзэмпляры адноўленых запісаў адсылаюцца ва ўстаноўленым парадку ў адпаведныя акруговыя органы ЗАГС для сталага захаваньня ў архівах.

10. На кожным экзэмпляры даных запісаў у верхняй іх частцы робіцца наступная адзнака „адноўлена“.

Паказаныя запісы ў акруговыя статыстычныя органы не падаюцца.

11. Акруговыя органы ЗАГС усе другія экзэмпляры адноўленых запісаў павінны пераплятаць паводле п. 8 абежніку НКУС за 26 студзеня 1927 г. № 30 (Бюлетэнь СНК БССР 1927 г., № 6).

12. Калі колькасьць адноўленых у працягу году запісаў па аднаму роду актаў не перавышае 500 аркушаў, то запісы могуць быць аб'яднаны ў адну агульную па акрузе кнігу.

## Аднаўленьне запісаў нараджэньняў.

13. Прапашчыя або прапушчаныя запісы аб нараджэньні аднаўляюцца пастанаваю асобных камісіі для вызначэньня гадоў з абавязковым удзелам лекара.

*Увага.* Органы ЗАГС павінны ўзгадняць з органамі аховы здароўя пытаньні аб камандыраваньні лекара для ўдзелу у даных камісіях.

14. Камісія ўтвараецца з 3-х асоб пры акруговых ЗАГС з:

а) начальніка адміністрацыйнага аддзелу ці асобы па яго назначэньні,

б) прадстаўніка аховы здароўя (лекара-экспэрта) і

в) загадчыка органу ЗАГС.

15. Пры раённых органах ЗАГС камісія ўтвараецца з: а) старшыні ці члена выканаўчага камітэту, які зьяўляецца кіраўнікам органу ЗАГС, б) лекара і в) справавода стала ЗАГС.

16. Камісія павінна разглядзець усе дакумэнты, якія знаходзяцца ў справе і ёсьць на руках у грамадзян, выслухаць пацьверджаньне сьведак (калі такія ёсьць) і праз мэдыцынскі агляд вызначыць гады данай асобы і неадкладна (не складаючы пратаколу) зрабіць запіс у адпаведную актавую кнігу.

*Увага.* У графе 11 запісу паказваецца час яго аднаўленьня, які падпісваецца камісіяю, напрыклад: „Запіс адноўлен камісіяю за 15/VI 1927 г. Старшыня .................... Члены .................... Лекар .................... Справавод ЗАГС ....................“

У графе 13 падпісваецца заяўнік.

17. Пры заяве аб аднаўленьні запісаў аб нараджэньні дзяцей, узятых грамадзянамі на выхаваньне, апроч органаў інспэкцый народнай асьветы, а таксама бяспрытульных, недарослых, страціўшых сувязь з бацькамі і непамятуючых месца свайго нараджэньня, павінны падавацца пастановы органаў апекі аб дазволе ўсынаўленьня паводле арт. арт. 75-80 Кодэксу Законаў аб Шлюбе, Сям'і і Апецы.

19. Калі ўстанавіць асобу заяўніка дакумэнтамі няма магчымасьці (бо няма дакумэтаў) то запісы аб нараджэньні аднаўляюцца толькі пасьля ўстанаўленьня асобы данага грамадзяніна пры дапамозе дазнаньня міліцыі.

## Аднаўленьне запісаў сьмерцяў.

20. У заявах аб аднаўленьні запісаў аб сьмерці паказваецца: а) імя, імя па бацьку, прозьвішча і гады памёршага і б) час і месца сьмерці. Адзначаныя зьвесткі павінны быць падпісаны зацікаўленаю асобаю (заяўнікам), а калі ён няпісьменны, то кім-небудзь з прысутных. Апроч таго, да заявы павінны быць прыкладзены дакумэнты, паказаныя ў п. 5 гэтай інструкцыі.

21. Орган ЗАГС, устанавіўшы на падставе дакумэнтаў, паказаных у п. 5, і паказаньняў сьведак, здабытых дазнаньнем міліцыі, сапраўднасьць факту сьмерці, аднаўляе запіс, запісваючы апошні ў адпаведную актавую кнігу.

22. Графа 11 адноўленага запісу запаўняецца паказаньнем аб часе яе аднаўленьня, прыблізна ў наступнай форме: „15/VI 1927 г. запіс зроблен з тае прычыны, што прапалі кнігі, і падана хадайніцтва такога-та. Паданыя дакумэнты (пералічыць) ці дазнаньне міліцыі“.

У графе 13 падпісваецца заяўнік і сьведкі, калі такія ёсьць.

## Аднаўленьне запісаў шлюбаў.

23. Запісы аб шлюбе аднаўляюцца органамі ЗАГС толькі тады, калі прапалі старыя мэтрычныя ці новыя рэгістрацыйныя кнігі і няма другіх экзэмпляраў іх у адпаведных архівах і калі ёсьць заявы абодвух супругаў.

24. Заявы аб аднаўленьні запісаў шлюбаў робяцца ў пісьмовай і ў вуснай форме ў адпаведны орган ЗАГС па месцу жыцьця супругаў ці аднаго з іх.

25. У заяве паказваецца: а) імя, імя па бацьку і прозьвішча абодвых супругаў, б) з якога часу знаходзяцца ў шлюбе, в) месца рэгістрацыі шлюбу і г) прычыны, якія выклікалі патрэбу аднаўленьня запісаў.

26. У графе 11 адноўленага запісу паказваецца прычына яго аднаўленьня аналёгічнай паказанай у п. 22 рэдакцыі.

Запаўненьне графы 13 падпіскаю заяўнікаў зьяўляецца абавязковым.

27. Калі трэба аднавіць запіс аб шлюбе ў часе адсутнасьці ці пасьля сьмерці аднаго з супругаў, то факт шлюбнага супольнага жыцьця павінен аднаўляцца народным судом паводле прымет арт. 23 Кодэксу Законаў аб Шлюбе, Сям'і і Апецы.

28. Пасьведчаньні адноўленых запісаў актаў грамадзянскага стану выдаюцца на агульных падставах, г. зн. выданыя першымі пасьля аднаўленьня запісаў лічацца першапачатковымі, аб чым робіцца адпаведная адзнака ў графе 14 запісу.

29. Гэтую інструкцыю трэба неадкладна разаслаць усім падпарадкаваным органам ЗАГС да сельскіх саветаў уключна для дакладнага і няўхільнага выкананьня.

Нам. Народнага Камісара
Унутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

27 мая 1928 г.

---

## 18. Пастанова Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР

ПРА БАРАЦЬБУ З БЮРАКРАТЫЧНЫМІ ЗЬЯВІШЧАМІ І НЕДАХОПАМІ Ў ПРАЦЫ.

Эканамічныя камісіі ва ўстановах і вытворчыя нарады на прадпрыемствах, а таксама насьценныя газэты вядуць сыстэматычную барацьбу з усімі бюракратычнымі зьявішчамі і недахопамі ў працы ўстаноў і прадпрыемстваў, але кіраўнікі апошніх, ня гледзячы на цэлы шэраг дырэктыў, дадзеных урадавымі, партыйнымі і прафэсыйнымі органамі, ня зусім уважліва і чутка адносяцца да працы гэтай нашай грамадзкасьці.

Часта прапановы эканамічных камісій і нарад зусім пакідаюцца без разгляду або ім не даецца належнага руху.

Мерапрыемствы, якія праводзяцца па ініцыятыве самой адміністрацыі, не абмяркоўваюцца загадзя на пасяджэньнях эканамічнай камісіі і вытворчых нарад.

Заметкі насьценных газэт аб тых ці іншых недахопах часта астаюцца без адказу і такім чынам насьценныя газэты ў большасьці трацяць у вачох працоўных мас ўвесь свой грамадзкі аўтарытэт і значэньне.

Наогул, не наглядаецца той актыўнасьці і блізкасьці, якія-б павінны былі праяўляцца адміністрацыяю ў працы грамадзскіх

арганізацый, закліканых да прыняцьця самага блізкага ўдзелу ў справе нашага сацыялістычнага будаўніцтва.

Прэзыдыум ВСНГ БССР, пацьвярджаючы свае ранейшыя дырэктывы і распараджэньні, зноў заклікае ўвесь кіраўнічы склад прамысловасьці да прыняцьця больш актыўнага ўдзелу ў працы рабочай грамадзкасьці—эканамічных камісій, вытворчых нарад і насьценных газэт.

Такія пытаньні, як устанаўленьне структуры і штатаў, складаньне каштарысаў, рацыяналізацыя апарату і працы і інш.,—абавязкова павінны ставіцца на ўсебаковае абмяркоўваньне эканамічных камісій і нарад, даючы апошнім усе патрэбныя матар'ялы і тлумачэньні.

Газэтныя заметкі ў насьценных газэтах і ў іншых органах друку у якіх паказваецца на тыя ці іншыя недахопы і ненармальнасьці ў працы ўстаноў і прадпрыемстваў, не павінны пакідацца без належнага расьсьледваньня і выстарчальнага адказу і аб'ясьненьня.

Адносна вядзеньня падліку і выкананьня прапаноў эканамічных камісій і вытворчых нарад пацьвярджаецца парадак, устаноўлены абежнікамі ВСНГ БССР за 7 студзеня і 6 сьнежня 1927 г. № 3445 і 27.

Старшыня Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі
БССР **С. Карп.**

Начальнік Адміністрацыйна-Гаспадарчага
Кіраўніцтва ВСНБ БССР **А. Лучышын.**

16 чэрвеня 1928 г.
№ 164.

---

## 19. Пастанова Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі і Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

ПРА СПОСАБЫ ВЫВАРВАНЬНЯ ТЛУШЧУ З КАСЬЦЕЙ.

Каб палепшыць спосабы выварваньня касьцей і папярэдзіць іх зьнішчэньне, Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі і Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляюць:

1. Забараніць выварваньне і здабываньне з касьцей тлушчу, ужываючы серкавую кіслату і іншыя спосабы выварваньня касьцей, якія выклікаюць распад гэтых касьцей і робяць іх непатрэбнымі для далейшага скарыстаньня.

2. Асобы, вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы, прыцягваюцца да адказнасьці ў адміністрацыйным парадку.

Старшыня Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі
БССР **С. Карп.**

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

30 чэрвеня 1928 г.
№ 48.

Зацьверджана Эканамічнаю Нарадаю пры СНК БССР 8 чэрвеня 1928 г.

## 20. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Фінансаў і Кіраўніцтва Дзяржаўнага Страхаваньня БССР.

ПРА ПАРАДАК РАЗЬМЕРКАВАНЬНЯ І ВЫДАТКАВАНЬНЯ Ў БССР АДЛІЧЭНЬНЯЎ З СРОДКАЎ ДЗЯРЖАЎНАГА СТРАХАВАНЬНЯ, ЯКІЯ АДПУСКАЮЦЦА НА ПАДСТАВЕ АРТ. 59 ПАЛАЖЭНЬНЯ АБ ДЗЯРЖАЎНЫМ СТРАХАВАНЬНІ НА МЕРАПРЫЕМСТВЫ ДЛЯ ПАПЯРЭДЖАНЬНЯ І ЗМАГАНЬНЯ З ВЫПАДКАМІ, ПРАДУГЛЕДЖАНЫМІ СТРАХАВАНЬНЕМ.

*А. Агульныя палажэньні.*

1. Адлічэньні, якія адпускаюцца Галоўным Кіраўніцтвам Дзяржаўнага Страхаваньня БССР паводле арт. 59 Палажэньня аб дзяржаўным страхаваньні на мерапрыемствы папярэджаньня і змаганьня з выпадкамі, прадугледжанымі страхованьнем, робяцца ў мясцовым бюджэце, як асыгнаваньні са строга мэтавым назначэньнем, і, да фактычнага іх выдаткаваньня, знаходзяцца на падліку Кіраўніцтва Дзяржаўнага Страхаваньня БССР.

2. Адлічэньні дзяржаўнага страхаваньня на мерапрыемствы папярэджаньня і змаганьня з выпадкамі, прадугледжанымі страхаваньнем, што залічаюцца ў запасныя фонды, а таксама разьмяркоўваюцца для акруг, выдаткоўваюцца ў межах агульнага арыентыровачнага пляну Галоўнага Кіраўніцтва Дзяржаўнага Страхаваньня на падставе плянаў, якія штогод складаюцца Кіраўніцтвам Дзяржаўнага Страхаваньня БССР разам з народнымі камісарыятамі Ўнутраных Спраў і Земляробства, а ў выпадках, паказаных у арт. 18 гэтай інструкцыі, разам і з Вышэйшым Саветам Народнай Гаспадаркі, разглядаюцца Страхавым Саветам пры Народным Камісарыяце Фінансаў БССР і зацьвярджаюцца Эканамічнаю Нарадаю пры СНК БССР.

*Б. Пра назначэньне і парадак разьмеркаваньня і выдаткаваньня адлічэньняў.*

3. Адлічэньні, паказаныя ў арт. 1:

. На мерапрыемствы для папярэджаньня і змаганьня з вывыпадкамі, прадугледжанымі страхаваньнем у сельскіх мясцовасьцях.

*А. На мерапрыемствы для змаганьня з пажарамі.*

а) Адлічэньні, якія прыпадаюць на долю абавязковага акладнага страхаваньня ад агню сельскіх будынкаў.

б) Частка адлічэньняў ад прыбыткаў па дабравольным і абавязковым неакладным страхаваньні, якая прыпадае, паводле асобнага рахунку, на долю сельскага дабравольнага і неакладнага страхаваньня ад агню.

в) Частка адлічэньняў на долю абавязковага акладнага страхаваньня расьлінных культур у разьмеры ня менш палавіны агульнай сумы гэтых адлічэньняў, апроч паказанага ніжэй проценту на мерапрыемствы для змаганьня з выпадкамі, прадугледжанымі гэтым страхаваньнем (п. „В“, арт. 3).

г) Ня менш палавіны адлічэньняў на долю дабравольнага страхаваньня расьлінных культур.

*Б. На мерапрыемствы для змаганьня з паморкам на сельска-гаспадарчую жывёлу.*

а) Адлічэньні, якія прыпадаюць на долю абявязковага і дабравольнага страхаваньня сельска-гаспадарчай жывелы.

б) Да палавіны адлічэньняў па апярацыях абявязковага акладнага страхаваньня расьлінных культур, апроч паказанай ніжэй часткі на мерапрыемствы для змаганьня з выпадкамі, прадугледжанымі гэтым страхаваньнем (п. 1 „В“, арт. 3).

в) Да палавіны адлічэньняў, якія прыпадаюць на долю дабравольнага страхаваньня расьлінных культур.

*В. На мерапрыемствы для змаганьня з выпадкамі, прадугледжанымі страхаваньнем расьлінных культур.*

Частка адлічэньняў, якая прыходзіцца на долю абавязковага акладнага страхаваньня расьлінных культур, у разьмеры, ня больш 10 проц. агульнай сумы гэтых адлічэньняў.

## II. На мерапрыемствы для папярэджваньня і змаганьня з выпадкамі, прадугледжанымі страхаваньнем у гарадох.

*А. На мерапрыемствы для змаганьня з пажарамі.*

а) Адлічэньні, якія прыпадаюць на долю гарадзкога абавязковага акладнага страхаваньня будынкаў.

б) Частка адлічэньняў ад прыбытку па дабравольным і абявязковым неакладным страхаваньні, якая прыпадае, паводле асобнага рахунку, на долю гарадзкога дабравольнага і неакладнага страхаваньня ад агню.

*Б. На мерапрыемствы для змаганьня з паморкам на жывёлу.*

Адлічэньні на долю гарадзкога абавязковага і дабравольнага страханьня жывёлы.

## III. На мерапрыемствы для папярэджваньня і змаганьня з выпадкамі, прадугледжанымі асабовым страхаваньнем.

Адлічэньні ад прыбыткаў па ўсіх відах асабовага страхаваньня.

## IV. На мерапрыемствы для папярэдвжаньня і змаганьня з выпадкамі, прадугледжанымі гарантыйным страхаваньнем.

*Адлічэньні ад прыбыткаў па гарантыйным страхаваньні.*

4. Адлічэньні, якія прыпадаюць на долю таго ці іншага страхаваньня, разьмяркоўваюцца прапарцыянальна фактычнаму збору страховай прэміі за той год, за які адлічэньні адпушчаны.

5. З адлічэньняў на мерапрыемствы для змаганьня з пажарамі і паморкам жывёлу ня больш 25 проц. залічваюцца ў запасны фонд патаму і іншаму мерапрыемству асобна (п. п. „А“ і „Б“ арт. 3), а рэшта цалкам разьмяркоўваецца ў акругі прапарцыянальна

фактычнаму збору прэміі па кожнаму віду страхаваньня (акладному і дабравольнаму разам) за той год, з прыбыткаў якога адлічаны разьмяркоўваемыя сумы.

6. Запасныя фонды знаходзяцца ў распараджэньні Ураду БССР і прызначаюцца:

а) на ўзмацненьне асыгнаваньняў на сельскую і гарадзкую прэвэнцыю і рэпрэсію акругам і гарадом, што маюць асаблівую патрэбу;

б) на меры прэвэнцыі і рэпрэсіі і, якія праводзяцца ў рэспубліканскім масштабе ці ў масштабе некалькіх акруг;

в) на экстраныя патрэбы для змаганьня з сельскімі пажарамі з паморкамна жывёлу.

*Увага.* Адлічэньні на мерапрыемствы для змаганьня з выпадкамі, прадугледжанымі страхаваньнем расьлінных культур (п. 1 „В“ арт. 3), выдаткоўваюцца, як сродкі запаснага фонду, бяззваротнымі дапамогамі на вывучэньне зьявішч, зьвязаных з градабіцьцем і на спробы беспасрэднага змаганьня з выпадкамі, прадугледжанымі страхаваньнем расьлінных культур.

7. Сумы запасных фондаў Кіраўніцтва Дзяржаўнага Страхаваньня БССР залічваюцца на асобны бягучы рахунак, процанты за які прылічваюцца да сум запасных фондаў.

Адлічэньні, якія павінны быць перададзены акругам, да іх канчатковага разасыгнаваньня Кіраўніцтвам Дзяржаўнага Сстрахаваньня БССР таксама залічваюцца на асобны бягучы рахунак, процанты за які прылічваюцца да гэтых сродкаў.

8. Разасыгнаваныя ў акругі адлічэньні ідуць у распараджэньне акруговых выканаўчых камітэтаў, праводзяцца ў мясцовым бюджэце, як асыгнаваньні з мэтавым прызначэньнем, і выдаткоўваюцца беззваротнымі пазычкамі, ці ў мяшаным парадку—часткаю дапамогамі, а часткаю пазычкамі.

Суадносіны паміж сумамі дапамогі і пазычак, а таксама паміж сумамі, якія асыгноўваюцца на папераджальныя мерапрыемствы (агнятрывалае будаўніцтва, расплянаваньне і інш.) і на мерапрыемствы для змаганьня (гашэньне пажараў і забясьпечаньне вадою і інш.) устанаўляюцца у адпаведнасьці з агульнымі паказаньнямі пляну Кіраўніцтва Дзяржаўнага Страхаваньня БССР.

9. Разьмеркаваньне адлічэньняў у акругі (арт. 5) павінна быць скончана на працягу месяца ад дня перадачы іх Галоўным Кіраўніцтвам Дзяржаўнага Страхаваньня БССР, а складаньне акруговых плянаў і каштарысаў (арт. 10) і зацьверджаньне іх акруговымі выканаўчымі камітэтамі—на працягу трох тыдняў од дня атрыманьня акруговымі выканаўчымі камітэтамі зацьверджаннага Эканамічнаю Нарадаю БССР агульнага пляну па Рэспубліцы.

10. Сумы, якія перадаюцца ў акругі (арт. 5), выдаткоўваюцца паводле зацьверджаных акруговымі выканаўчымі камітэтамі плянаў і каштарысаў, складзеных у акругах, у адпаведнасьці з зацьверджаным Эканамічнаю Нарадаю БССР агульным плянам па Рэспубліцы акруговымі міжведамственнымі нарадамі паводле папярэдне рас-

працованых акруговымі агэнцтвамі дзяржаўнага страхаваньня разам акруговым зямельным аддзелам і акруговым аддзелам камунальнай гаспадаркі праектаў.

11. У склад акруговых міжведамственных нарад уваходзяць за старшыню нарады, старшыня альбо член акруговага выканаўчага камітэту і за членаў нарады—па аднаму прадстаўніку: ад акруговай плянавай камісіі, ад фінансавага, зямельнага аддзелаў і камунальнай інспэкцыі, мясцовага органу дзяржаўнага страхаваньня, мясцовага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і акруговых саюзаў сельска-гаспадарчай капярацыі.

12. Складзеныя міжведамственнымі нарадамі пляны і каштарысы (арт. 10) акруговыя выканаўчыя камітэты на працягу сямі дзён пасьля іх зацьверджаньня паведамляюць Кіраўніцтву Дзяржаўнага Страхаваньня БССР, якое разглядае і зацьвярджае іх на працягу тыдня разам з прадстаўнікамі камісарыятаў: Унутраных Спраў, Земляробства і Фінансаў, і калі няма пярэчаньняў, неадкладна адпускае сродкі на выкананьне мерапрыемстваў, прадугледжаных плянамі.

Калі ёсьць разнагалосьсі паміж паказанымі ўстановамі, што пляны, што разглядаюцца, могуць быць абскарджаны ў Эканамічную Нараду БССР, то сродкі выдаюцца толькі пасьля зацьверджаньня Эканамічнаю Нарадаю абскарджаных пляпаў.

*Увага.* Для паказанага абскарджаньня ўстанаўляецца тыднёвы тэрмін ад дня разгляду Кіраўніцтвам Дзяржаўнага Страхаваньня БССР з прадстаўнікамі названых вышэй камісарыятаў пастаноў акруговых выканаўчых камітэтаў; пасьля выходу адзначанага тэрміну абскарджаньне не дазваляецца.

13. Калі будзе на месцы патрэба ўнесьці зьмены ў першапачатковы плян пасьля яго зацьверджаньня, то такія зьмены могуць быць зроблены толькі паводле артыкулаў 10—12 гэтай інструкцыі.

14. Сумы вызначаныя ў акруговых плянах і каштарысах на выдачу пазычак Кіраўніцтвам Дзяржаўнага Страхаваньня БССР уносяцца як уклады з мэтавым прызначэньнем у мясцовыя ўстановы Сельска-Гаспадарчага Банку і Банку Камунальнай Гаспадаркі і Жыллёвага Будаўніцтва для скарыстаньня іх на наступных умовах:

а) пазычкі выдаюцца паводле хадайніцтваў, накіраваных праз мясцовыя акруговыя агэнцтвы дзяржаўнага страхаваньня з заключэньнем раённых агэнтаў дзяржаўнага страхаваньня;

б) пры вырашэньні ўстановамі Сельска-Гаспадарчага ці Камунальнага Банку пытаньняў аб выдачы пазычак з сродкаў дзяржаўнага страхаваньня ўдзельнічае акруговы агэнт дзяржаўнага страхаваньня;

в) пазычкі выдаюцца на тэрмін ад 6-ці месяцаў да 5-ці год; Выплаты пазычак ідуць на аднаўленьне пазычковага капіталу.

15. Сумы, вызначаныя ў акруговых плянах і каштарысах на беззваротныя дапамогі, перадаюцца акруговым выканаўчым камітэтам (арт. 8), для расходваньня паводле хадайніцтваў у належныя акруговыя органы праз мясцовых агэнтаў дзяржаўнага страхаваньная з іх заключэньнямі і разглядаюцца з удзелам акруговых агэнтаў дзяржаўнага страхаваньня.

*В. Пра адлічэньне ад прыбыткаў па дабравольным і неакладным страхаваньні.*

16. Частка адлічэньняў ад прыбыткаў па дабравольным і абавязковым неакладным страхаваньні, якая прыпадае на долю сельскага дабравольнага і неакладнага страхаваньня ад агню, сельска-гаспадарчай жывёлы і расьлінных культур, прылічваецца да сум адлічэньняў па апарацыях абавязковага акладнага страхаваньня ад агню і сельска-гаспадарчай жывёлы (арт. 3, п. А і Б), разьмяркоўваюцца і выдаткоўваюцца разам з тымі сродкамі на мерапрыемствы для змаганьня з пажарамі і паморкам на жывёлу ў парадку, паканым у артыкулах 5-8 гэтай інструкцыі.

17. Рэшта адлічэньняў ад прыбыткаў па дабравольным і абавязковым неакладным страхаваньні ад агню залічваецца ў асобны запасны фонд і захоўваецца на бягучым рахунку парадкам, паказаным у арт. 7 гэтай інструкцыі, для выдачы бяспроцантных пазычак і беззваротных дапамог на мерапрыемствы для змаганьня з пажарамі камунальным установам і прамысловым прадпрыемствам БССР.

18. Адзначаная ў папярэднім артыкуле частка адлічэньняў разьмяркоўваецца паміж ВСНГ і акругамі Рэспублікі прапарцыянальна фактычнаму збору прэміі па дабравольным і неакладным страхаваньні ад агню прамысловасьці ВСНГ і іншай маемасьці (апроч сельскага страхаваньня) за той год, з прыбыткаў якога зроблены адлічэньні, і выдаткоўваюцца паводле штогадовых плянаў складзеных паводле артыкулаў 2, 10 і 12 гэтай інструкцыі.

19. Сумы, адлічаныя з запаснага фонду на беззваротныя дапамогі, Кіраўніцтвам Дзяржаўнага Страхаваньня БССР перадаюцца акруговым выканаўчым камітэтам і ВСНГ БССР для скарыстаньня іх на прызначэньне, а сумы, назначаныя для выдачы бяспроцантных пазычак, уносяцца ў Банк Камунальнае Гаспадаркі і Жылішчнага Будаўніцтва, як уклады з мэтавым прызначэньнем.

20. Беспроцантавыя пазычкі выдаюцца Банкам Камунальнай Гаспадаркі і Жылшчнага Будаўніцтва беспасрэдна паводле яго даручэньняў мясцовымі органамі пры ўдзеле мясцовых акруговых агэнтаў установам камунальнае гаспадаркі праз акруговыя выканаўчыя камітэты, а прамысловым прадпрыемствампра з ВСНГ БССР. Нагляд за папаўненьнем выданых пазычак ускладаецца на названы Банк.

*Г. Пра абвяшчэньне насельніцтву аб дапамозе, што робіцца за рахунак сродкаў Дзяржаўнага Страхаваньня для змаганьня з выпадкамі, прадугледжанымі страхаваньнем.*

21. Пры расходваньні сродкаў, разьмеркаваных у акругі, акруговыя і раённыя выканаўчыя камітеты і мясцовыя органы дзяржаўнаьа страхаваньня ўжываюць захады да того, каб насельніцтва было паведамлена аб тым, што дапамогаю, якая рабіцца за рахунак адзначаных сродкаў, яму варочаецца частка страхавых збораў, якія аказаліся збыткаю пасьля папаўненьня страт у застрахаванай маемасьці.

*Д. Пра адлічэньні ад прыбыткаў па асабовым і гарантыйным страхаваньні.*

22. Адлічэньні ад прыбыткаў па апярацыях асабовага і гарантыйнага стахаваньня залічваюцца ў запасныя фонды на мерапрыемствы папярэджаньня і змаганьня з выпадкамі, прадугледжанымі

гэтымі відамі страхаваньня, і выдаткоўваюцца ў адпаведнасьці з агульнымі заданьнямі Галоўнага Кіраўніцтва Дзяржаўнага Страхаваньня паводле пляну Кіраўніцтва Дзяржаўнага Страхаваньня БССР, зацьверджанага пасьля ўхваленьня Страхавым Саветам пры Народнам Камісарыяце Фінансаў БССР, Эканамічнаю Нарадаю пры СНК БССР.

*Е. Нагляд за выдаткаваньнем на прызначэньне адлічэньняў Дзяржаўнага Страхаваньня і парадак справаздачнасьці аб іх скарыстаньні.*

23. Нагляд за выдаткаваньнем і рацыянальным скарыстаньнем на прызначэньне выданых дапамог і пазычак паводле п. „к." арт. 28 Палажэньня аб дзяржаўным страхаваньні ажыцьцяўляецца Кіраўніцтвам Дзяржаўнага Страхаваньня БССР беспасрэдна і праз акруговыя агэнцтвы дзяржаўнага страхаваньня.

Для ажыцьцяўленьня паказанага нагляду ўстановы, што выдаюць дапамогі і пазычкі, кожнае паўгодзьдзе пасылаюць акруговым агэнцтвам дзяржаўнага страхаваньня сьпісы асоб і арганізацый, якія атрымалі дапамогі і пазычкі, паказваючы тэрміны пазычак і для якой мэты яны выданы.

24. Забараняецца выдаткоўваць сумы, атрыманыя як пазычкі ці як беззваротныя дапамогі не на прызначэньне, а таксама рабіць ўсялякія задоўжанасьці з гэтых сум хаця-б часова на пабочныя мэты, прычым парушэньне паказанага патрабаваньня выклікае ўстаноўленую законам адказнасьць.

25. На органы фінансавага кантролю Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР ускладаецца фактычная рэвізія правільнасьці скарыстаньня ўстановамі і арганізацыямі адпушаных ім сродкаў дзяржаўнага страхованьня на мерапрыемствы папярэджваньня і змаганьня з выпадкамі, прадугледжанымі страхаваньнем.

26. Усе ўстановы і органы, што атрымалі сумы з адлічэньняў дзяржаўнага страхаваньня на мерапрыемствы для змаганьня з пажарамі і паморка на сельска-гаспадарчую жывёлу для выдачы пазычак і дапамог, падаюць: акруговыя—праз акруговыя страхавыя агэнтцвы, а рэспубліканскія—беспасрэдна Кіраўніцтву Дзяржаўнага Страхаваньня БССР гадовыя справаздачы аб скарыстаньні сум, якія знаходзіліся ў іх распараджэньні. Справаздачы падаюцца паводле ўстаноўленай Кіраўніцтвам Дзяржаўнага Страхаваньня БССР формы не пазьней 2-х месяцаў пасьля сканчэньня таго году, у якім адпушчаныя сродкі былі атрыманы.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР **Л. Бунін.**

Старшыня Кіраўніцтва Дзяржаўнага Страхаваньня
БССР. **З. Чарнушэвіч.**

## 21. Абежнік Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі.

ПРА ПРАКТЫЧНЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ Ў ПРАЦЫ КАМІТЭТАЎ СЯЛЯНСКІХ ТАВАРЫСТВАЎ УЗАЕМАДАПАМОГІ НА ПРАЦЯГУ ЛІПЕНЯ—ВЕРАСЬНЯ 1928 году.

*Усім раённым камітэтам сялянскіх таварystваў узаемадапамогі БССР.*

Галоўнаю задачаю камітэтаў сялянскіх т-ваў узаемадапамогі на працягу надыходзячага кварталу зьяўляецца правядзеньне асеньняй пасеўнай кампаніі і дапамога бядняцкім гаспадаркам па зьбіраньні ураджаю гэтага году.

Для ажыцьцяўленьня гэтага Центральны Камітэт Сялянскіх Т-ваў Узаемадапамогі БССР прапануе выканаць наступныя канкрэтныя задачы:

1. Па падрыхтоўцы і правядзеньні асеньняй пасеўнай кампаніі:

а) сельскія камітэты павінны падрыхтаваць сьпісы бядняцкіх гаспадарак, якія маюць недастатак у насеньні жыта, і разам з раённым камітэтам сялянскіх таварystваў узаемадапамогі загатаваць патрэбную колькасьць насеньня і своечасна пазычыць на пасеў, зьвярнуўшы асаблівую увагу на загатоўку праз калектыўныя гаспадаркі і савецкія гаспадаркі, гатунковага азімага насеньня;

б) арганізаваць своечасна ачыстку насеньня членаў таварыства і загатоўленага камітэтамі для выдачы, даўшы поўную нагрузку зернеачышчальным машынам камітэтаў сялянскіх таварystваў узаемадапамогі і пракатных пунктаў агравучасткаў;

в) у час пасеўнай кампаніі дапамагаць бядняцкім гаспадаркам працоўна-гужавою сілаю ня менш 5 гаспадаркам ў кожным сельскім камітэце;

г) своечасна апрацаваць грамадзкімі сіламі зямельныя вучасткі камітэтаў, намечаныя да засеву жытам;

д) у час пасеўнай кампаніі дапамагаць бядняцкім гаспадаркам членаў таварystваў у атрыманьні патрэбных ім крэдытаў;

е) арганізаваць у працягу кварталу па 2 сельска-гаспадарчых аб'яднаньні на кожны раён, асабліва зьвярнуць увагу на арганізацыю арцеляў па сумеснай апрацоўцы зямлі, передаючы іх ў сыстэму сельска-гаспадарчай кааперацыі, прыстасоўваючы гэтае пытаньне да земляўпарадкаваньня, што праводзіцца на мясцох.

Наогул камітэты сялянскіх таварystваў узаемадапамогі павінны разгарнуць асеньнюю пасеўную кампанію так, каб ніводнага вучастка азімага кліна не асталося не засеяным, асабліва у бядняцкай гаспадарцы. Трэба арганізаваць раз'ясьняльную кампанію сярод членаў сялянскіх таварystваў узаемадапамогі аб пашырэньні пасеву азімай пшаніцы, а таксама і аб карысьці зaворкі восеньню глебы, якая будзе засеяна на будучы год ярыною.

Для найбольшага посьпеху првядзеньня асеньняй пасеўнай кампаніі трэба усе намечаныя мерапрыемствы ўзгодніць з зацікаўленымі органамі.

Справаздачу аб правядзеньні асеньняй пасеўнай кампаніі і арганізацыі арцеляў раённыя камітэты сялянскіхтаварystваў узаемадапамогі павінны падаць ў Цэнтральны Камітэт Сялянскіх Таварystваў узаемадапамогі не пазьней 15 кастрычніка 1928 г.

2. Па зьбіраньні ўраджаю бягучага году:

а) дапамагаць бядняцкім гаспадаркам ў час зьбіраньня ураджаю праз арганізацыю працоўных дружын, талокі ня меньш, як 10 гаспадаркам ў кожным сельскім камітэце;

б) своечасна сабраць ураджай з камітэцкіх зямельных і сенажатных вучасткаў.

Старшыня Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварystваў Узаемадапамогі **Жарын.**

Адказны Сакратар Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварystваў Узаемадапамогі **П. Стрыкаў.**

28 чэрвеня 1928 г.

---

## 22. Абежнік Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварystваў Узаемадапамогі БССР.

ПРА СПАГНАНЬНЕ ЧЛЕНСКІХ УНОСАЎ І ПАЗЫЧАК НАСЕННАГА ФОНДУ.

*Усім раённым і сельскім камітэтам і акруговым упаўнаважаным сялянскіх таварystваў узаемадапамогі БССР.*

Пастановаю V Усебеларускага Зьезду Сялянскіх Т—ваў Узаемадапамогі, што адбыўся 15-18 сакавіка гэтага году, устаноўлены членскія ўносы паводле новага мэтаду ў разьмеры 5 проц. з налічанай сумы сельска-гаспадарчага падатку на кожную гаспадарку членаў т-ваў сялянскай узаемадапамогі. Гэтаю-ж пастановаю даручана Прэзыдыуму Центральнага Камітэту Сялянскіх Т-ваў Узаемадапамогі устанавіць разьмер членскіх уносаў з тых гаспадарак членаў т-ваў, якія не абкладаюцца сельска-гаспадарчым падаткам. Для выкананьня гэтай пастановы Прэзыдыумам Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Т-ваў Узаемадапамогі устаноўлен разьмер членскіх уносаў для гаспадарак, што не абкладаюцца сельска-гаспадарчым падаткам, па 10 кап. у год з кожнай гаспадаркі.

V Усебеларускім Зьездам Камітэтаў Сялянскіх Т-ваў Узаемадапамогі і пастановаю Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР за 14 чэрвеня 1928 г. на камітэты сялянскіх т-ваў узаемадапамогі ўскладзена галоўная задача па матар'яльнай частцы: павялічэньне несеннага натуральнага фонду і разгортваньне вытворчых прадпрыемстваў, дапаможных сельскай гаспадарцы, а разам з гэтым і ўзмацненьне матар'яльнай базы камітэтаў сялянскіх т-ваў узаемадапамогі праз безнядоімачнае спагнаньне членскіх уносаў і выдадзеных пазычак.

На падставе памянёнага вышэй Цэнтральны Камітэт Сялянскіх Т-ваў Узаемадапамогі прапануе раённым і сельскім камітэтам і акруговым упаўнаважаным сялянскіх т-ваў узаемадапамогі ажыцьцявіць наступныя мерапрыемствы:

1. У самы бліжэйшы час на сходах сельскіх упаўнаважаных разам з сельскімі камітэтамі разглядзець пытаньне аб налічэньні членскіх уносаў на 1928-29 гаспадарчы год паводле новага мэтаду, паводле пастановы V Усебеларускага Зьезду Камітэтаў Сялянскіх Т-ваў Узаемадапамогі і Прэзыдыуму Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварystваў Узаемадапамогі.

На гэтым самым сходзе перагледзець нядоімку членскіх уносаў мінулых (1925-26, 1926-27) гаспадарчыхгадоў і з бядняцкіх гаспадарак,

якія ня могуць заплаціць, а таксама з гаспадарак, што перасяліліся ў іншыя мясцовасьці, зьняць нядоімку сваёю пастановаю.

2. На працягу ліпеня і жніўня месяцаў скласьці сьпісы членаў т-ваў у кнігах, заказаных ЦКСТУ (якія будуць разасланы у бліжэйшы час), налічыўшы членскія уносы на 1928-29 гаспадарчы год: на гаспадаркі, што абкладаюцца сельска- гаспадарчым падаткам, з разрахунку 5 проц. сумы налічанага на кожную гаспадарку сельска-гаспадарчага падатку на гэты-ж год і на гаспадаркі, што не абкладаюцца сельска-гаспадарчым падаткам, па 10 кап. на кожную гаспадарку.

У кнігі перанесьці нядоімку членскіх уносаў за мінулыя 1925-26, 1926-27 гаспадарчыя гады, якая павіна быць спагнана.

3. Праверыць па абавязнасьцях і асобных рахунках пазычкі, выдадзеныя камітэтамі, а таксама і пазычкі, атрыманыя ад зямельных органаў.

4. Распачаць спагнаньне членскіх уносаў як акладу 1928-29 году, а таксама нядоімкі 1925-26, 1926-27 гаспадарчых гадоў і пазычак не пазьней 15 верасьня бягучага году, праводзячы спэцыяльную кампанію для спагананьня членскіх уносаў і пазычак у працягу двох месяцаў, з 15 верасьня па 15 лістапада бягучага году, узгадніўшы гэта пытаньне з раённым выканаўчым камітэтам і сельскімі саветамі, поводле прапановы ЦВК БССР за 14 чэрвеня 1928 г., і мясцовымі дырэктыўнымі органамі, з такім разрахункам, каб да 15 лістапада былі спагнаны цалкам і членскія уносы і пазычкі. Толькі своечасовае спагнаньне членскіх уносаў і пазычак пакажуць працу таго ці іншага раённага камітэту і асабліва старшыні яго.

5. Зьвесткі аб налічэньні і спагнаньні членскіх уносаў і пазычак устанаўляюцца наступныя:

а) раёныя камітэты не пазьней 1-га верасьня падаюць у Цэнтральны Камітэт Сялянскіх Т-ваў Узаемадапомогі такія зьвесткі: аб ліку гаспадарак, што абкладаюцца членскімі уносамі на 1928-29 гаспадарчы год, аб суме налічаных членскіх уносаў за гэты-ж год, аб суме перанесянай у кнігу сьпісаў членаў нядоімкі членскіх уносаў за 1925-26, 1926-27 гаспадарчыя гады, аб суме пазычак за членамі т-ваў асобна насеньнем і асобна грашмі;

б) пачынаючы з 1-га кастрычніка 1928 г., падаюць у ЦКСТУ двохтыднёвыя зьвесткі на 1 і 15 кожнага месяцу, колькі спагнана членскіх уносаў за мінулыя два тыдні, асобна за 1928-29 год (рублёў), нядоімкі за 1925-26, 1926-27 гады (рублёў), пазычак насеньнем (пудоў) і грошай (рублёў).

Адказнасць за сваячасную падачу зьвестак па спагнаньні членскіх уносаў і пазычак ускладаецца пэрсанальна на старшыню раённага камітэту сялянскіх т-ваў узаемадапамогі.

6. Адначасна прапануецца старшыням раённых камітэтаў і акруговым упаўнаважаным завесьці ў сябе сталы падлік селькораўскіх заметак у мясцовых, а таксама і ў цэнтральных газэтах і падлік растрат і злачынстваў, выяўленых пры рэвізіях і абсьледваньні, сваячасна рэгулюючы гэтыя справы.

Апроч таго, старшыні раёных камітэтаў і акруговыя упаўнаважаныя павінны як правіла, абавязкова высьвятляць у мясцовых

і цэнтральных газетах, пасьля кожнага абсьледваньня і разгляду дакладаў сельскіх і раённых камітэтаў, дасягненьні і недахопы абследаванага камітэту.

Старшыня Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі БССР **Жарын.**

Адказны Сакратар Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі **П. Стрыкаў.**

3 ліпеня 1928 г.
№ 2.

---

## 23. Пытаньні і адказы.

### Запытаньні Магілеўскай Акруговай Зямельнай Камісіі.

ПЫТАНЬНЕ **29.** Ці можна адвесьці пры землеўпарадкаваньні два сядзібных вучасткі многасямейнаму двару, які і цяпер мае на сваёй сядзібе дзьве хаты, калі на гэта згодны землякарыстальнікі пасёлкаў?

АДКАЗ. Паводле арт. арт. 111 і 112 Зямельнага Кодэксу кожны двор пры землеўпарадкаваньні мае права на надзяленьне адным сядзібным вучасткам аднакавага для ўсіх двароў разьмеру. Пастановаю Савету Народных Камісараў БССР за 21 ліпеня 1926 г. пра распляноўваньне і забудоўку паселішчаў (З. З. БССР 1926г., № 34, арт. 128) найменшы разьмер сядзібы з гумнішчам вызначан у 5.400 кв. мэтраў (больш ½ дзесяціны). Гэты разьмер па згодзе зямельнай грамады можа быць павялічан для ўсіх двароў. Але нават і на мінімальнай сядзібе цалком можна разьмясьціць усе будынкі і пакінуць месца пад сад і гарод. Значыць, дача аднаму двару двух сядзібных вучасткаў супярэчыла-б закону і не выклікалася-б гаспадарчаю мэтазгоднасьцю, а таму ня можа быць дазволена.

ПЫТАНЬНЕ **30.** Калі сельска-гаспадарчы калектыў выключыць з свайго складу некаторых членаў, а яны хадайнічаюць перад зямельнаю камісіяю аб аднаўленьні іх у правох, лічачы, што іх выключэньні няправільна, хто павінен вырашаць такія пытаньні і ў якім парадку—судовым ці адміністрацыйным?

АДКАЗ. Нармальны статут сельска-гаспадарчых калектываў вызначае ўмовы і парадак выключэньня членаў. Калі агульны сход калектыву сваёю пастановаю парушыць устаноўленыя статутам правілы для выключэньня з калектыву паасобных членаў, то яны маюць права абараняць свае правы членства. зьвязаныя з правамі на карыстаньне калектыўнаю маемасьцю. Усякія-ж спрэчкі аб грамадзянскім праве вырашаюцца судом паводле арт. 2 Грамадзянскага Кодэксу.

Калі мець на ўвазе, што паводле пункту „д“ арт. 199 Зямельнага Кодэксу у рэдакцыі пастановы ЦВК і СНК за 17 мая 1928 г. раённая зямельная камісія разглядае скаргі на пастановы агульных сходаў зямельных грамад, на падставе арт. 217 Водна-Мэліярацыйнага Кодэксу, яна-ж разглядае скаргі членаў мэліярацыйнага і торфавага таварыства на выключэньне з яго складу, то трэба па аналёгіі прызнаць, што і скаргі членаў сельска-гаспадарчага калектыву (камуны, арцелі і таварыствы па грамадзкай апрацоўцы зямлі) на незаконнае выключэньне з яго складу падсудны раённай зямельнай камісіі.

ПЫТАНЬНЕ **31**. У судовым ці адміністрацыйным парадку трэба вырашаць справу аб залічэньні зямлі у запасны фонд і ліквідаваньні сельска-гаспадарчага калектыву на той падставе, што члены яго адмовіліся ад вядзеньня калектыўнай гаспадаркі і хочуць працаваць асобна?

АДКАЗ. Парадак спыненьня дзейнасьці сельска-гаспадарчых калектываў і ліквідаваньня іх вызначан пастановаю ЦВК і СНК Саюзу ССР за 15 чэрвеня 1927 г. (З. З. СССР 1927 г., № 37, арт. 372). Паводле гэтай пастановы, калі калектыў ухіляецца ад мэты, паказанай у законе, напрыклад, адмаўляецца ад калектыўнай апрацоўкі зямлі, альбо ад здачы прадукцыі дзяржаўным ці каперацыйным органам, то дзейнасьць калектыву спыняецца у адміністрацыйным парадку пастановаю акругавага выканаўчага камітэту. Ён затым даручае органу, які рэгіструе статут калектыву, ліквідаваць калектыў праз ліквідацыйную камісію. Зварочваецца пры гэтым у запасны фонд для арганізацыі новых калектыўных гаспадарак толькі тая зямля, якую калектыў атрымаў ад зямельных органаў для вядзеньня на ёй калектыўнай гаспадаркі. Калі-ж калектыў быў арганізован на зямлі працоўнага карыстаньня, то яна астаецца у распараджэньні былых членаў ліквідаванага калектыву.

## Запытаньне Чэрвенскай Раённай Зямельнай Камісіі.

ПЫТАНЬНЕ **32**. Бываюць выпадкі, што па вырашаных справах аб падзеле двара ісцу дана права жыць разам з адказчыкамі, але выканаць такую пастанову не магчыма, бо цяжка усяліць ісца ў двор. А калі якія і ўсяляюцца, то скора ізноў выкідваюцца адказчыкамі. З прычыны гэтага ісцы падаюць новыя заявы аб падзеле альбо выплатах. Ці трэба такія заявы разглядаць па сутнасьці, як новыя справы, ці іх трэба спыняць, як паўторныя?

АДКАЗ. Калі у іску аб падзеле гаспадаркі было адмоўлена з дачаю ісцу права жыць разам з адказчыкамі, прычым ізноў падаецца той самы іск з тае прычыны, што не магчыма выканаць пастанову, то такую справу трэба спыніць, бо не дазваляецца падаваць паўторны іск тымі-ж старанамі. А калі раней быў іск аб падзеле, а новы іск падаецца аб выплатах пры выхадзе з гаспадаркі, то гэты іск не зьяўляецца паўторным і справу трэба разглядзець па сутнасьці.

## Запытаньне Смалявіцкай Раённай Зямельнай Камісіі.

ПЫТАНЬНЕ **33**. Як разглядаць наступныя справы: аб выдзеле просіць ня той, каго па сутнасьці іску трэба выдзеліць, а сям'я, якая жадае ухіліцца ад платы алімэнтаў і захаваць гаспадарку ад зруйнаваньня, бо паводле судовай пастановы утрыманьне спаганяецца з агульнай маемасьці двара? Асоба, з якой прысуджаны алімэнты, каб вызваліць гаспадарку ад платы іх, падае іск пра падзел маемасьці падзельнай гаспадаркі.

АДКАЗ. Зямельным Кодэксам БССР прадугледжаны падзелы двароў і сплаты пры выхадзе з іх складу паасобных членаў. Надзелы працоўных земляробскіх гаспадарак, наогул, прыпынены пастановаю Савету Народных Камісараў за 10/IV-1925 г. і дазваляюцца толькі у выключных выпадках. Да іх не належыць жаданьне двара ухіліцца ад платы алімэнтаў, якія прысуджаны з члена гаспадаркі і спаганяюцца з агульнай яе маемасьці. Толькі па іску прадстаўнікоў дзіцяці, якое не належыць да складу двара і мае права на алімэнты з яго члена, народны суд можа прысудзіць, на падставе арт. 71

Кодэксу Законаў аб Шлюбе, Сям'і і Апецы, частку маемасьці двара, якая прыпадае на долю адказчыка. Сплаты члену гаспадаркі даюцца, калі ён выходзіць са складу двара і просіць аб сплаце. Таму павінна быць спынена справа з тае прычыны, што няма права на іск, калі іншыя члены двара дамагаюцца выключэньня з яго складу, выдзелу маемасьці альбо прысуджэньня сплаты члену, які гэтага ня просіць.

Іск члена двара пра падзел маемасьці падзельнай гаспадаркі разглядаецца раённаю зямельнаю камісіяю. Задаволеньне гэтага іску ня можа пагоршыць становішча дзіцяці, на карысьць якога прысуджаны з паказанага члена алімэнты, бо паводле арт. 70 Кодэксу Законаў аб Шлюбе, Сямі і Апецы дзіця мае права на утрыманьне з уласных сродкаў бацькі і, апроч таго, толькі з тае часткі супольнай маемасьці двара, якая належыць адказчыку.

## Запытаньне Лупалаўскай Раённай Зямельнай Камісіі.

ПЫТАНЬНЕ **34.** У пункце 7 інструкцыі за 11/XII-1925 г. пра парадак разгляду зямельных спраў паказана, што справу не магчыма спыніць, калі супроць гэтага будуць іншыя удзельнікі земляўпарадкаваньня. Каго трэба разумець пад іншымі ўдзельнкамі земляўпарадкаваньня.

АДКАЗ. Удзельнікамі альбо старанамі ў земляўпарадчым працэсе называюцца тыя юрыдычныя альбо фізычныя асобы, паводле хадайніцтва якіх пачалося земляўпарадкаваньне, а таксама і сумежныя землякарыстальнікі ў пэўнай стадыі працэсу. Калі справа пачалася паводле хадайніцтва зямельнай грамады, то і спыніць яе можна толькі прыгаварам агульнага сходу грамады, а гаспадаркі, якія уваходзяць у яе склад, ня могуць кожная ў паасобку спыніць земляўпарадчую справу. Але і па хадайніцтву зямельнай грамады справа спыняецца ў стадыі вызначэньня знадворных граніц толькі па згодзе сумежных землякарыстальнікаў, бо яны у гэтай стадыі працэсу зьяўляюцца удзельнікамі земляўпарадкаваньня. Калі-ж знадворныя граніцы будуць вызначаны, падаваць заяву аб спыненьні можа толькі старана па хадайніцтву якой пачалося земляўпарадкаваньне, таму, што сумежныя землякарыстальнікі ва ўнутрыпаселішчным земляўпарадкаваньні не зацікаўлены. Значыць, пад іншымі удзельнікамі земляўпарадкаваньня, пра якіх гаворыцца у арт. 165 Зямельнага Кодэксу і п. 7 інструкцыі Народнага Камісарыяту Земляробства за 11/XII 1925 г., трэба разумець сумежных землякарыстальнікаў, а не паасобныя двары, якія уваходзяць у склад зямельнай грамады. Калі агульным сходам яе вынесена перад зацьверджаньнем праекту пастанова пра спыненьне земляўпарадкаваньня, то яно ня можа весьціся далей па хадайніцтву паасобных двароў. Апошнія у гэтым выпадку могуць прасіць толькі пра выдзел з грамады, паводле артыкулаў 118—122 Зямельнага Кодэксу.

## Запытаньне Віцебскай і Магілеўскай акруговых зямельных камісій.

ПЫТАНЬНЕ **35.** Каму падсудны справы паісках аб утрыманьні дзяцей, старых бацькоў і іншых непрацаздольных членаў двара? Паводле артыкулаў 66 і 69 Кодэксу Законаў аб Шлюбе, Сям'і і Апецы іскі старых бацькоў да сваіх дзяцей аб утрыманьні падсудны

народнаму суду. Між тым Асобая Калегія па справе Смслікаў № 500 --1927 г. прапанавала разглядзець такі іск зямельнай камісіі.

АДКАЗ. На падставе увагі да арт. 62 Кодэксу Законаў аб Шлюбе, Сям'і і Апецы маемасныя правы і абавязкі бацькоў і дзяцей у складзе сялянскага двара устачаўляюцца Зямельным Кодэксам. Паводле-ж арт. 79 Зямельнага Кодэксу у рэдакцыі пастановы ЦВК і СНК за 14/V-1927 г. і пункту „б“ арт. 199 таго-жа Кодэксу у рэдакцыі пастановы ЦВК і СНК за 17/V-1928 г., раённай зямельнай камісіі падсудны іскі, якія падаюцца да двара аб утрыманьні яго членаў—дзяцей, старых бацькоў і іншых непрацаздольных. Таму толькі іскі аб утрыманьні асоб, якія не належаць да складу двара, напрыклад, іскі аб алімэнтах, падсудны народнаму суду.

## Запытаньне Копысскай Раённай Зямельнай Камісіі.

ПЫТАНЬНЕ **36**. Ці павінны разглядацца зямельнаю камісіяю справы, па якіх пры гаспадарчым ўпарадкаваньні разьмеркавана на паласы толькі ворная зямля без разьбіўкі на вучасткі сенажацяў, ці справы гэтыя разглядаюцца зямельнаю камісіяю толькі пасьля сканчэньня упарадкаваньня усіх ужыткаў?

АДКАЗ. Паводле арт. 172 Зямельнаго Кодэксу у рэдакцыі пастановы ЦВК і СНК за 17/V-1928 г., пры унутрыпаселішчным земляўпарадкаваньні праекты гаспадарчага ўпарадкаваньня паасобных аб'яднаньняў, наогул, не зацьвярджаюцца зямельнаю камісіяю, бо зямельныя правы двароў і аб'яднаньняў іх вызначаны пры групавым земляўпарадкаваньні. Калі-ж на неправільнае ажыцьцяўленьне гэтых правоў у праекце гаспадарчага ўпарадкаваньня паступяць па працягу 7 дзён (арт. 173) скаргі, то яны канчаткова разглядаюцца раённаю зямельнаю камісіяю. Пры земляўпарадкаваньні-ж савецкіх і калектыўных гаспадарак гаспадарчае упарадкаваньне робіцца разам з асноўным земляўпарадкаваньнем. Таму складзены праект таго і другога ўпарадкаваньня зацьвярджаецца акруговаю зямельнаю камісіяю, калі гаспадарка мае акруговае ці рэспубліканскае значэньне, і раённаю зямельнаю камісіяю ў іншых выпадках.

## Запытаньне Чэрвенскай Раённай Зямельнай Камісіі.

ПЫТАНЬНЕ **37**. Ці мае права раённая зямельная камісія, калі будзэ уатанаўлен факт захопу зямлі, прысудзіць ад адказчыка на карысьць ісца страты, якія апошні меў ў сувязі з захопам?

АДКАЗ. Паводле пункту „г“ арт. 199 Зямельнага Кодэксу у рэдакцыі пастановы ЦВК і СНК БССР за 17 мая 1928 г. раённая зямельная камісія мае права, калі будзе установлены факт захопу зямлі адказчыкам, прысудзіць ад яго на карысьць ісца страты, якія апошні меў у сувязі з захопам.

ПЫТАНЬНЕ **38**. Што рабіць тады, калі зямельная камісія пры вынясеньні пастановы па справе аб падзеле гаспадаркі дакладна не паказала, якая маемасьць выдзяляецца ісцу, а вызначыла толькі кошт маемасьці, якая павінна быць выдзелена ісцу у натуры, на падставе чаго паміж старанамі узьніклі спрэчкі, бо члены двара, якія асталіся у гаспадарцы, не жадаюць даць ісцу маемасьці, якую ён хоча атрымаць?

АДКАЗ. На падставе пункту „д“ арт. 176 ГПК і арт. 74 Зямельнага Кодэксу зямельнай камісіі пры вынясеньні пастановы па справе аб падзеле гаспадаркі трэба дакладна паказаць і пералічыць тую маемасьць, якая выдзяляецца ісцу, а не абмяжоўвацца паказаньнем толькі долі выдзяленай ісцу з гаспадаркі маемасьці.

А таму, калі з прычыны недакладнага паказаньня ў пастанове выдзеленай ісцу маемасьці узьнiклі пры выкананьні яго спрэчкі, дык трэба ва устаноўленым парадку падаць хадайніцтва у Асобную Калегію Вышэйшага Кантролю аб скасаваньні гэтай пастановы ў парадку нагляду.

Аднак, улічваючы, што па справах аб падзеле гаспадарак ёсьць набыўшыя законую сілу пастановы зямельных камісій, у якіх дакладна не паказана выдзеленая ісцу маемасьць, і каб ухіліцца ад судовай цяганіны,—р а с т л у м а ч ы ц ь, што калі пастанова зямельнай камісіі з недакладным паказаньнем у ёй выдзяленай ісцу маемасьці вынесена да абвяшчэньня гэтага растлумачэньня і пры выкананьні яго ўзьнiклі спрэчкі паміж старанамі, дык зямельная камісія, якая вынесла гэтую пастанову, па хадайніцтву старон або заяве выканаўца, павінна паводле 185 арт. ГПК (155 арт. ІЗК за 11/XII-1925 г.) растлумачыць сваю пастанову і дакладна паказаць і пералічыць выдзяленую ісцу маемасьць у адпаведнасьці з прысуджанаю яму доляю.

ПЫТАНЬНЕ **39**. Ці можна даручыць сельскаму савету адвесьці пашу для вёскі, калі ёсьць для гэтага запасны фонд, але каб праганяць туды жывёлу трэба зрабіць прагон праз хутар аднаго селяніна, які на гэта не згаджаецца?

АДКАЗ. Каб зрабіць прагон праз зямлю працоўнага карыстаньня, патрэбны каморніцка-тэхнічныя дзеяньні. А таму паша вёсцы з запаснага фонду, калі пры гэтым трэба зрабіць прагон праз зямлю працоўнага карыстаньня, адводзіцца ў агульным земляўпарадчым парадку праз каморнікаў-земляўпарадчыкаў, а ня сіламі сельскіх саветаў. Паша вёсцы, калі ня трэба рабіць прагону праз зямлю працоўнага карыстаньня, можа адводзіцца і сіламі сельскіх саветаў.

## Запытаньне Гомельскай Акруговай Зямельнай Камісіі за № 880 (0305—1928 г.).

ПЫТАНЬНЕ **40**. Ці трэба пры прысуджэньні сплаты членам двара, што выходзяць з непадзельнай гаспадаркі паводле арт. 84 Зямельнага Кодэксу, браць пад увагу час, які яны працавалі ў гаспадарцы, або трэба вызначыць сплату праз роўнамернае разьмеркаваньне кошту маемасьці двара, паводле колькасьці працоўных адзінак?

АДКАЗ. Паводле арт. 63 Зямельнага Кодэксу двор ёсьць сямейна-п р а ц о ў н а е аб'яднаньне асоб, якія супольна вядуць сельскую гаспадарку.

Паводле арт. 65 Зямельнага Кодэксу права на маемасьць, якая знаходзіцца ў супольным карыстаньні двара, маюць усе члены яго ў п о ў н ы м с к л а д з е, без вызначаных частак удзелу паасобных членаў.

Арт. 84. Зямельнага Кодэксу прадугледжвае толькі максімальны разьмер сплаты, якая можа быць прысуджана членам двара, што выходзяць з непадзельнай гаспадаркі, а іменна гэты максімальны разьмер вызначаецца 1/3 кошту агульнага гаспадарчага абсталяваньня двара.

З гэтай прычыны пры вызначэньні, паводле арт 84 Зямельнага. Кодэксу, разьмеру сплаты членам двара зямельным камісіям трэба браць таксама пад увагу удзел працаю або сродкамі паасобных членаў двара ў гаспадарцы.

Адказы на пытаньні 29-40 даюцца Асобнаю Калегіяю Вышэйшага Кантролю на Зямельных Справах (Журнал пленарнага пасяджэньня АКВК за 11 чэрвеня 1928 г. № 37.)

---

## 11-а. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Працы БССР

ПРА ПАРАДАК СКЛАДАНЬНЯ СЬПІСУ СЯЛЯНСКІХ ГАСПАДАРАК ПРАМЫСЛОВАГА ТЫПУ.

На падставе арт. 31 пастановы СНК БССР за 29 сакавіка 1928 г. „Пра зьмену пастановы СНК БССР „Пра зацьверджаньне інструкцыі да часовых правіл аб умовах ужываньня дапаможнай наймовай працы ў сялянскіх гаспадарках“ (З. З. БССР, 1928 г. № 13, арт. 114) і пастановы СНК БССР за 25 чэрвеня 1928 г. (прат. распарадчага пасяджэньня № 61, арт. 910) Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Сьпісы гаспадарак прамысловага тыпу складаюцца не пазьней 15 жніўня 1928 г. сельскімі саветамі па становішчу на 1-га ліпеня 1928 г. паводле далучанай пры гэтым формы № 1 і падаюцца ў раённы выканаўчы камітэт.

*Увага 1.* У далейшым да ўвядзеньня падворных кніг паводле новай формы ў гэты сьпіс запісваюцца усе гаспадаркі прамысловага тыпу, якія па тых ці іншых прычынах ня былі уключаны раней;

2. Раённыя выканаўчыя камітэты падаюць зьвёсткі ў акруговыя інспэкцыі працы аб ліку гаспадарак прамыславага тыпу па раёну паводле формы № 2, не пазьней 1 верасьня 1928 г.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы **А. Круглік.**

10 ліпеня 1928 г.
№ 46

---

ДАДАТАК 1.

Форма № 1.

### Сьпіс гаспадарак прамысловага тыпу.

Вёска ..........

Сельскі савет ..........

Раён ..........

| Чарговы № | № па сьпісу платнікаў сельска-гаспадарчага падатку. | Прозьвішча гаспадара. | З якой прычыны залічаны у гаспадаркі прамыслова тыпу. | Колькасьць рабочых. | УВАГА. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | | | | | |

*Увага 1.* У графе 4 паказаць: залічаны ў гаспадаркі прамысловага тыпу, як належачыя да п. п. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8 арт. 1 пастановы СНК БССР за 29 сакавіка 1928 г.

*Увага 2.* Пры залічэньні гаспадарак да прамысловага тыпу (графа 4) бярэцца пад увагу абкладаньне сельска-гаспадарчым падаткам на 1927-28 год.

---

ДАДАТАК 2.

Форма № 2.

## З ь в е с т к і

### аб ліку гаспадарак прамысловага тыпу па раёну ..........................

1. Агульны лік гаспадарак прамысловага тыпу, з іх паводле

п. 1 арт. 1 пастановы СНК БССР за 29 сакавіка 1928 г. ..........................
„ 2 „ „ „ „ „ „ „ ..........................
„ 3 „ „ „ „ „ „ „ ..........................
„ 4 „ „ „ „ „ „ „ ..........................
„ 5 „ „ „ „ „ „ „ ..........................
„ 6 „ „ „ „ „ „ „ ..........................
„ 7 „ „ „ „ „ „ „ ..........................
„ 8 „ „ „ „ „ „ „ ..........................

---